РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 200 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №25 (134), 22 ЧЭРВЕНЯ 1994






# ВЫБАРЫ БЕЗ ВЫБАРУ

Уявіце сабе — вы трапілі на гульню "Поле цудаў". Спадар Якубовіч прыдумаў такое слова, што акрамя "каб цябе кот убрыкнуў" іншых моўных адзінак у галаве не з'яўляецца. Канкурэнты ж вашыя ўжо, мабыць, дапетрылі, бо з выглядам знаўцы пераможна паглядаюць у тэлекамеру, чакаючы вашай памылкі, пераходу ходу і...

І раптам шчасце дорыць вам апошні шанц — сектар "Мільён"! Вось ён, хвост сіняй птушкі! Вось яно, апраўданне перад жонкай і знаёмымі! Вось яно, самасцвярджэнне ўласнага гонару!

У студыі з'яўляецца дзеўчынёха, у руках якой нешта шамаціць і пагруквае, і Якубовіч анёльскім голасам на вачах мільённай тэлеаўдыторыі прапануе вам не два мяшэчкі, як звычайна, а дзве талерачкі — адна поўніцца абаранкамі, а на другой не могуць утрымацца (так іх многа) банкаўскія пакункі грошай...

"Стоп!" — усклікне чытач. "Так не бывае! Кот павінен сядзець у мяшку!"

І памыліцца! Так бывае. Так будзе заўтра. Бо выбары тым і адрозніваюцца ад латарэі, што мы бачым і разумеем, за што будзем галасаваць. Мы свядома будзем абіраць заўтра сваю будучыню.

Заўтра мы не маем выбару. Мы павінны пакінуць у бюлетэнях толькі адно прозвішча — прозвішча чалавека, на якога можна спадзявацца. Прозвішча чалавека, за якім стаіць менавіта тая будучыня, якой мы жадаем. Усе іншыя будуць выкраслены з бюлетэняў і з гісторыі без аніякага жалю.

Сёння нам застаецца толькі адзін, апошні дзень, каб, як той казаў, падбіць бабкі, падсумаваць усё і адказаць самому сабе на адно-адзінае просценькае пытанне: "ЧАГО Ж Я ХАЧУ?"

А я хачу жыць па-чалавечы. Я хачу, аддаючыся сваёй любімай працы, зарабляць столькі, каб сын і жонка свабодна рэалізоўвалі тое, што закладзена ў іх прыродай, ды і я сам меў бы магчымасць скарыстаць іншы раз з тых уцех, што даруе чалавеку жыццё.

Я хачу ганарыцца сваёй краінай і сваім народам. Я хачу памятаць подзвігі сваіх продкаў, і хачу, каб подзвігі гэтыя ўшаноўваліся ў стагоддзях. Я хачу, каб мяне паважалі ў свеце за тое, што я з Беларусі, а маю зямлю паважалі за тое, што яна нарадзіла таленавіты і працалюбівы народ. Я хачу, каб праз сто гадоў пры вымаўленні слова "Беларусь" сярэднестатыстычны афрыканец адчуваў бы гэткае ж трымценне, як сёння ад слова "Нямеччына", "Швецыя" альбо "Данія".

Я хачу, каб гандлёвую марку маіх прадпрыемстваў і маёй прадукцыі ў свеце пазнавалі гэтак жа, як "Панасонікі" ды "Кока-колу", а мой талер з выявай Скарыны быў бы гэткім жа куленепрабіваемым, як і іхні долар з Вашынгтонам.

Я хачу, каб мая зямля і мой селянін дыктавалі сусветныя цэны на лён і грэчку, бульбу і яблыкі, каб мая экалагічна чыстая шынка была куды больш папулярная за іхні "дэр грюне пункт" бэкон і каб Еўропа памятала, адкуль прыйшлі лепшыя рэцэпты кілбасаў і гарэлак.

І каб шлях да гэтай мары пачаўся ўжо сёння, я без жалю выкраслю прозвішчы тых, хто наймацнейшую рэспубліку былой імперыі на працягу чатырох год свядома ператварыў у найбяднейшы і найгаротнейшы край. Я выкраслю тых, хто здзекаваўся з людзей з года ў год, давёўшы сярэдні заробак па краіне да дваццаці долараў. Я выкраслю тых, хто купляў бульбу з Італіі, кроўна абражаючы і ганьбячы свайго селяніна. Я зраблю свой выбар.

А яшчэ я хачу беларусам звацца. Я хачу, каб квітнела і мацнела краіна, якая толькі і зможа абараніць мае інтарэсы. Мне няма куды падацца — ні ў Аўстраліі, ні ў Амерыцы мяне не чакаюць, ды і прамяняць пагоркі Лагойшчыны на скалы Шатландыі не пагаджуся. Я хачу падарожнічаць па свеце з пашпартам грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, і каб краіна мая мела ўсе чыннікі дзяржавы: межы, валюту, банкаўскую сістэму, мытню, войска. Я хачу, каб існавала мая краіна — гарант спраўджвання маіх надзей.

І таму я выкраслю прозвішчы тых, хто плача па імперыі. Я без усялякай шкадобы адмоўлюся ад тых, хто ў перадвыбарчых прамовах знаходзіў у сабе подласць прамаўляць "наша страна СССР", хто ніводнага разу не назваў Беларусь краінай, задавальняючыся дэфініцыяй "рэспубліка". Я выкраслю тых, хто марыць далучыць Беларусь да ўсходняй суседкі. Я не дарую людзям, якія плішчацца на найвышэйшую пасаду ў краіне, поўныя нянавісці да гэтай самай краіны.

Я хачу, каб, як сказаў паэт, Беларусь запанавала на Беларусі. Я хачу, каб мова, якую я пачуў ад бацькоў і на якой размаўляю з сынам, узбагачаная і ўзмацнелая, перайшла да майго ўнука. Я хачу, каб старажытныя беларускія сімвалы і надалей ядналі нацыю ў пагоні за лепшай доляй. Я хачу, каб рэпутацыя беларускай навукі не толькі не згасала, а набывала яшчэ большы аўтарытэт. Я хачу, каб пра феномен беларускага культурнага асяроддзя загаварылі ў свеце на поўны голас.

І таму я выкраслю таго, хто не памятае, на якой мове яму спявала маці калыханку. Я выкраслю таго, каго нават высокая дзяржаўная пасада не прымусіла загаварыць па-беларуску. Таго, у каго хапае нахабства ігнараваць маральны аспект моўнай трагедыі беларусаў, хто не паважае мой старажытны сцяг і мой найпрыгажэйшы герб, хто сістэматычна скасоўвае дзяржаўнае фінансаванне культуры і навукі і закрывае найважнейшыя даследчыцкія цэнтры.

Я хачу, каб кіраваў Беларуссю чалавек, варты гэтай зямлі — адукаваны і інтэлігентны. Я хачу, каб прэзідэнт быў чалавекам шырокага кругагляду і вялікай празарлівасці, абсалютна вольны ад любых догмаў і стэрэатыпаў.

І таму я выкраслю кухарку, якая збегла з кухні, каб займацца палітыкай, бо інакш у краіне не будзе ні прыстойных страў, ні прыстойнага кіравання. Я выкраслю тых, хто не ўмее звязаць двух слоў без дапамогі паперкі і чыя думка губляецца і блытаецца на закасцянелым языку, — жорсткіх, неадукаваных людзей. Я адмоўлю ў даверы тым, хто блытае слова культура з фізкультурай або макулатурай. Я абавязкова адкіну тых, хто не бачыць далей свайго носа, а пры першым жа паражэнні цягнецца да зброі.

Я вельмі многага яшчэ, паважаны чытач, хачу ад свайго першага прэзідэнта. Але ёсць рэчы, якія я асабіста стаўлю найперш. Для мяне прэзідэнт павінен стаць увасабленнем БЕЛАРУСІ, ДЭМАКРАТЫІ, ДАБРАБЫТУ, ІНТЭЛЕКТУ.

І такі чалавек сярод кандыдатаў ёсць. Выбары заўтрашнія для мяне не латарэя — я ведаю, КАГО хачу. Доўга выбіраць не даводзіцца. Гэтыя выбары для мяне — без выбару.

Максім ГІЛЕЎСКІ.

## КАБ НЕ ЗАСТАВАЦЦА НА АБОЧЫНЕ

**У Камісіі Вярхоўнай Рады Рэспублікі Беларусь па пытаннях галоснасці, сродках масавай інфармацыі і правах чалавека апошнім часам ішла работа над дапрацоўкай праектаў законаў "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" і "Аб палітычных партыях" з удзелам прадстаўнікоў адпаведных міністэрстваў і ведамстваў, Саюза журналістаў, юрыстаў.**

**Сваімі меркаваннямі з чытачамі "Культуры" дзеліцца намеснік старшыні Камісіі, дэпутат Вярхоўнай Рады, пісьменнік Анатоль ВЯРЦІНСКІ:**



— Занонапраекты прыняты парламентам у першым чытанні. Мы ўскладаем надзею, што яны будуць уключаны ў парадак для чарговай 15-й сесіі Вярхоўнай Рады, адобраны і пачнуць працаваць. Падзеі апошняга часу паказваюць, што закон "Аб друку і сродках масавай інфармацыі" патрэбны нам, як паветра. Тым больш, што многія артыкулы новай Канстытуцыі гавораць аб гэтым. У прыватнасці, артыкул 33-і: кожнаму грамадзяніну гарантуецца свабода поглядаў, перакананняў, выказванняў; манапалізацыя сродкаў дзяржаўнай інфармацыі дзяржавай і грамадскімі аб'яднаннямі недапушчальная. 34-ы абвяшчае, што нашым грамадзянам гарантуецца атрыманне, захоўванне, распаўсюджанне поўнай, дакладнай, своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў аб палітычным, эканамічным, экалагічным стане, міжнародным жыцці. Праект закону "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" мае на ўвазе развіць гэтыя канстытуцыйныя палажэнні.

**— На Ваш погляд, ці будзе спрыяць працы журналістаў гэты законапраект, ці аблегчыць іх нялёгкую і зараз нават небяспечную работу?**

— Закон дапрацоўваўся з удзелам журналістаў, юрыстаў. Абмяркоўваўся на міжнароднай канферэнцыі. Было выказана шмат слушных меркаванняў, прапаноў, заўваг. Спадзяюся, што Закон аб друку зробіць добрую справу, будзе працаваць на далейшую дэмакратызацыю нашага грамадства, рэалізоўваць права грамадзянаў Беларусі на атрыманне поўнай інфармацыі.

**— Ці з'явіцца ў нас больш прыватных выданняў, радыё- і тэлестудый?**

— Гэтая справа ў нас пачынае развівацца. Што датычыць электронных сродкаў масавай інфармацыі, тут ёсць свае складанасці.

Сённяшняе заканадаўства дазваляе кожнаму грамадзяніну Рэспублікі Беларусь ствараць сродкі масавай інфармацыі. Праект, які намі распрацаваны пацвярджае гэтае права і не дзеліць сродкі масавай інфармацыі на дзяржаўныя і недзяржаўныя.

**— Якія новыя законапраекты рыхтуюцца ў Камісіі?**

— Мы маем намер вынесці на разгляд сесіі законапраект аб аўтарскіх сумежных правах. Тут мы вельмі адсталі і знаходзімся, на жаль, на абочыне сусветнага працэсу. Бо міжнароднае права аб аўтарскіх сумежных правах налічвае ўжо шмат дзесяцігоддзяў, пэўны вопыт, традыцыі. Мы ж будзем яго толькі напрацоўваць і ўкараняць на сваёй нацыянальнай глебе.

**Наталля ДАНІЛІНА**

## РОТ ЗАТКНУЛІ — АЛЕ...

Закрытая як быццам бы з нагоды рэарганізацыі Белдзяржтэлерадыёкампаніі ў Дзяржаўны камітэт па тэлебачанні і радыёвяшчанні найпапулярнейшая радыёстанцыя "Беларуская маладзёжная" не скарылася пад націскам улад. 18 чэрвеня ў Доме афіцэраў прайшла прэзентацыя новай рэспубліканскай грамадска-палітычнай незалежнай газеты "Беларуская маладзёжная", першы нумар якой з'явіўся ў свет 10 чэрвеня стотысячным тыражом. Рэдактарам новага выдання стала Таццяна Нічыпарук, былы намеснік галоўнага рэдактара радыёстанцыі "БМ". Знаёмыя радыёслухачам імёны — Віталь Сямашка, Алесь Дайнека, Анатоль Вечар, Ірына Курапаткіна, Вольга Бабак ды многія іншыя — цяпер можна сустрэць на старонках газеты. І, як сцвярджаюць самі радыёжурналісты, першы нумар выдання — "не апошні".

На прэзентацыю, каб выказаць салідарнасць журналістам, няўгодным для ўладаў, прыйшлі прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта Станіслаў Шушкевіч, старшыня Рэспубліканскага беларускага фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Л.Сапегі Георгій Куневіч, а таксама прадстаўнікі тэлебачання, радыё, інфармацыйных агенцтваў ды газет з Беларусі і з-за мяжы.

Рот незалежным журналістам улады здолелі закрыць. Але "самая беларуская і самая маладзёжная" жыве! Цяпер ужо на старонках газеты.

Дарэчы, у гэты ж дзень у парку імя Горкага па ініцыятыве Аргкамітэта па аднаўленні дзейнасці радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная" адбыўся рок-канцэрт "За дэмакратыю і галоснасць". Удзел у палітычнай акцыі прынялі знакамітыя беларускія рок-гурты: "Мроя", "Новае неба", "Уліс", "Крама". Канцэрт завяршыўся а 24 гадзіне.

**Адам ДУБЧЫК**

## НАЗІРАЛЬНІКУ СПАДАБАЛАСЯ НАДВОР'Е

Як вядома, назіраць за ходам выбарчай кампаніі і выбарамі прэзідэнта ў Беларусі афіцыйна запрошаны прадстаўнікі замежных краін і арганізацый. МЗС накіравала запрашэнні ў ААН, Еўрапарламент, краіны ЕС.

Адным з першых прыехаў у Мінск Олаф Хансан, які прадстаўляе Еўрапейскі Інстытут сродкаў масавай інфармацыі ў Дзюсельдорфе. Ад імя Дэмакратычнай Праграмы ТАСІС Еўрапейскага Саюза ён праводзіць маніторынг асвятлення прэзідэнцкіх выбараў у прэсе. Такі маніторынг прадугледжаны і на выпадак правядзення другога тура выбараў. За апошнія гады Інстытут праводзіў даследаванні, звязаныя з выбарамі, у Расіі, Малдове, Венгрыі і на Украіне.

Спадар Хансан — прафесійны журналіст, доўгі час працаваў на радыё, да нядаўняга часу быў галоўным рэдактарам канала ТВ-2 Швецыі. На сустрэчы з журналістамі ў Мінску ён падкрэсліў, што ў першую чаргу яго цікавіць тое, што адбываецца ў Беларусі ў галіне радыё і тэлебачання, і толькі ў другую — самі выбары. Паводле яго словаў, ідэальнага асвятлення выбараў ён не сустракаў ні ў воднай краіне. Разам з тым, прызнаўся Хансан, у яго былі пэўныя стэрэатыпы адносна Беларусі і яму вельмі прыемна, што першыя ўражанні аказаліся больш станоўчымі, чым ён чакаў. Аднак, калі беларускія журналісты папрасілі ўдакладніць, што ён меў на ўвазе, назіральнік дыпламатычна адказаў, што яму вельмі падабаецца Мінск, а таксама... добрае надвор'е ў Беларусі.

У маніторынгу спадару Хансану дапамагаюць супрацоўнікі беларускага Мас-медыя Цэнтра. Аналізуюцца такія праблемы, як свабода доступу ўсіх палітычных партый да сродкаў масавай інфармацыі, бесстароннасць асвятлення выбарчай кампаніі, а таксама здольнасць СМІ працаваць свабодна і аб'ектыўна. З гутаркі са спадаром Хансанам можна было зрабіць выснову, што вынікі маюць хутчэй тэарэтычнае значэнне. Аднак ужо той факт, што яны будуць апублікаваны ва ўсіх краінах Еўропы, думаецца, у нейкай меры можа паўплываць на дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі ў псіхалагічным плане. Наогул можна дадаць, што ўскладаць празмерныя надзеі на прысутнасць заходніх назіральнікаў на выбарах не даводзіцца. Яны могуць толькі зафіксаваць нейкія парушэнні дэмакратычнай працэдуры альбо адзначыць неаб'ектыўнасць пры асвятленні выбарчай кампаніі з боку, скажам, манапалізаванай урадам прэсы, у першую чаргу — электроннай. На выніку выбараў, можна не сумнявацца, гэта аніяк не паўплывае. Відаць, адзінае, што застаецца журналістам, якія асвятляюць выбарчую кампанію ў Беларусі, — гэта сумленна расказваць выбаршчыкам пра тое, што адбываецца ў працэсе барацьбы за прэзідэнцкае крэсла. Празмерная ж агітацыя за таго ці іншага кандыдата, як паказвае практыка выбараў у іншых краінах — напрыклад, у Расіі, можа даць адваротны вынік.

**Віталь ТАРАС,**
**карэспандэнт "Общей газеты", спецыяльна для "Культуры"**

# НА ПАМЯЦІ ЎСІХ НАС...

Нядаўна ў цягніку пачула такую размову. Малады святар голасна філасофстваваў:

— Я буду падтрымліваць Кебіча. Ён дапамагае праваслаўнай царкве, ходзіць на набажэнствы.

— Дык ён жа былы камуніст! — запярэчыў яму сусед. — Хутчэй за ўсё, і сённяшні. А яны ж руйнавалі тыя ж самыя храмы, у якіх вы моліцеся...

— Калі Пазьняк прыдзе да ўлады, дык выступіць супраць праваслаўнай царквы, — не сунімаўся першы.

Слухаючы гэтую размову, думала пра тое, якая гэта страшная рэч — сродкі масавай інфармацыі, калі яны служаць пэўнаму гаспадару. Нібыта і не было зацятай барацьбы жменькі беларускіх інтэлігентаў супраць разбурэння храмаў, нібыта і не праследавалі тыя ж, хто сёння пры ўладзе, Зянона Пазьняка, які змагаўся за захаванне ўсіх хрысціянскіх святыняў. Тады яму не давалі голасу. Цяпер, калі ён можа гаварыць праўду, стараюцца сказіць ягонае аблічча, ягоныя выказванні. Вось ужо зрабілі з яго ворага праваслаўнай царквы, і людзі, якія свабодна моляцца ва ўратаваных ім і яго сябрах храмах — і каталіцкіх, і праваслаўных, — пра гэта не ведаюць, абіраюць сабе тых куміраў, пра якіх ім салодка спяваюць прылашчаныя ўладамі ўгодлівыя журналісты, з якіх вельмі нямногія ў тыя цяжкія часы асмельваліся пісаць пра зруйнаваныя помнікі культуры, пра самаўладдзе і недасведчанасць тых, хто кіраваў гэтай культурай. Аднак тое, пра што гаворыць у гэтым інтэрв'ю Зянон Пазьняк, на памяці ва ўсіх, хто падтрымліваў яго высакародную барацьбу за нашу нацыянальную спадчыну, якою сёння ў поўным сэнсе слова карыстаецца ўвесь народ. Таму першае пытанне да яго:

— Нагадайце, калі ласка, пра тыя храмы, за якія Вы змагаліся і якія, дзякуючы Вашым стараннем, рэстаўравалі.

**З.П.:** Выратаванне Траецкага прадмесця Верхняга горада — вынік нашых агульных намаганняў. Я даследаваў Базыльянскі жаночы манастыр і Святадухаўскую царкву гэтага манастыра, узарваную бальшавікамі ў 1936г. Далей мы раскапалі і даследавалі храм Дамініканаў. Ён закансерваваны і пакрыты плёнкай, але пакуль пытання рэстаўрацыі няма каму падымаць, хаця ўжо тры гады мінула. Тады аб рэстаўрацыі была дасягнутая дамоўленасць з Міністэрствам культуры. Гатовы праект рэстаўрацыі Езуіцкага кафедральнага касцёла, — гэта таксама вынік нашай барацьбы, як і захаваная Петрапаўлаўская царква. Яе ж дужа хацелі знесці.

**В.І.:** Дзеля таго, каб "не псаваць" прасторны праспект, які там пракладвалі і які пазней быў названы імем Машэрава? А дзе Вы працавалі ў той час?

**З.П.:** Тады я працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, потым у Інстытуце гісторыі і займаўся гістарычнымі і археалагічна-архітэктурнымі даследаваннямі. Фактычна мы першыя не толькі ў гісторыі Беларусі і Усходняй Еўропы, а можа, у гісторыі ўсёй Еўропы пачалі археалагічнае вывучэнне позняга сярэднявечча. Мы першыя пачалі ў гэтым сэнсе вывучаць XVIII стагоддзе, першыя пачалі раскопкі Верхняга горада. Раскапалі ратушу, нягледзячы на вялікія перашкоды.

**В.І.:** А хто былі найбольшыя праціўнікі аднаўлення храмаў? Назавіце канкрэтныя прозвішчы.

**З.П.:** Гэта Таразевіч, Машэраў, начальнік ГалоўАПУ Грыгор'еў, колішнія сакратар гаркама Барташэвіч, сакратар ЦК Колакалаў, пазнейшая кампанія — Сакалоў, Слюнькоў, Паўлаў. Але найбольш подлую пазіцыю займаў цэкоўскі функцыянер Антановіч. Ён гаварыў інтэлігенцыі, напрыклад, такія фразы: "Зачем нам этот феодальный пласт культуры?", так ён мысліў, цэлымі пластамі...

**В.І.:** "Забыцца" на "феадальны пласт" культуры — значыць пазбыцца праўды аб вялікай эпосе ў жыцці беларускага народа. Памятаю, калі на тэлебачанні мы распачалі гаворку аб ролі Івана Жахлівага ў разбурэнні Полацка -- адразу ж пасыпаліся лісты аб тым, што мы нібыта ўбіваем клін у дружбу з Расіяй. Але праўда ёсць праўда. Як бы ні хацелі і сёння схаваць яе ці прыгладзіць.

**З.П.:** У 1978 годзе адкрывалі музей у сядзібе Дзяржынскага, гэтага забойцы, які, на няшчасце, нарадзіўся на беларускай зямлі. З Масквы меліся быць госці, яны павінны былі паехаць праз Ракаў, Падневічы. Гэтую трасу правяраў чыноўнік Мікуліч і яшчэ нейкі партыйны дзеяч. Пад'язджаючы да Кіяўца, яны заўважылі царкву XIX стагоддзя і загадалі зрэзаць вежу і дах. Пад'язджаючы да Тупальшчыны, заўважылі на горцы старажытны магільнік з мурам і каванай брамай. Гэта былі могілкі, дзе пахаваны Дунін-Марцінкевіч, яны апісаныя паўстанцамі.



Дык вось, яны, заўважыўшы старажытны мур, загадалі выкапаць экскаватарам вакол яму і яго разам з брамай закапалі і паставілі штыкетнічак. Заўважылі стары млын XIX ст. у Падневічах, загадалі разбурыць. За гэтымі азіятамі (бо іначай іх не назавеш) я ездзіў услед і шукаў, хто гэта зрабіў. І царкву у Кіяўцы толькі цяпер сабраліся адбудаваць, але тады мы яе абаранілі, яе ўвогуле магло б ужо не быць. Упарта мы змагаліся за касцёл св.Андрэя ў Слоніме. Гэта была вялікая барацьба, і яна таксама закончылася нашай перамогай: касцёл не знеслі. Мы стараліся абараняць усе храмы, але найбольшы поспех мелі ў Менску. Тое, што збераглі, захавалі касцёл Святога Роха — сапраўдны цуд. Там ужо было запланавана будаўніцтва рэстарана на 500 месцаў, камбінат бытавога абслугоўвання на 5 паверхаў, гаражы, нават блізкія "глушылкі" ўжо думалі пераносіць. І было гэта зусім нядаўна — на пачатку 80-х гадоў.

**В.І.:** Як Вы ставіцеся да прыярытэту той ці іншай канфесіі на Беларусі і ці аддаяце Вы перавагу нейкай адной?

**З.П.:** Не павінна быць прыярытэту ні за адной з канфесіяў, таму што прыярытэт мае нацыянальная дзяржава. У старажытнасці (у XVI — XVII стст.) не было ідэі нацыянальнай дзяржавы, не было паняцця нацыі. Тады стрыжнем, які кансалідуе дзяржаву, была вера. Таму ішла барацьба між рэлігіямі. На Беларусі яна закончылася прыняццем уніі, гэта быў добры выхад для захавання дзяржавы. Потым гісторыя распарадзілася так, што нашу краіну разарвалі ворагі, знішчалі незалежнасць і зноў вярнулі шматканфесійнасць. Але ў сённяшнім грамадстве прыярытэтам яднання з'яўляецца не вера, а нацыя, нацыянальная свядомасць і нацыянальная дзяржава. Таму ўсе канфесіі павінны існаваць раўнапраўна, бо мы шматканфесійная нацыя. Усе канфесіі я падтрымліваю аднолькава.

**В.І.:** Наколькі я ведаю, Вы глыбока веруючы чалавек.

**З.П.:** Я гэтага ніколі не хаваў. Нават тады, пры камуністах. І я буду абараняць правы вернікаў, як і абараняў увесь час, бо яны досыць нацярпеліся пры савецкім рэжыме.

**В.І.:** Дзякуй за размову.

**Інтэрв'ю брала Вольга ІПАТАВА**

## ВАСІЛЬ

*... калі іншаземец злачынны*
*над роднай зямелькай*
*зарыкаў,*
*паўстаў каля сэрца Айчыны*
*юнача-салдат-Быкаў...*
*... калі канфармісцкае бздуры*
*патоп нашу годнасьць*
*паклікаў,*
*паўстаў каля сэрца культуры*
*сумленны пісьменьнік —*
*Быкаў...*
*... калі пустатой і бядою*
*вяртаем мы д'яблу пазыку,*
*папросім усёй грамадою:*
*— Паўстань да Улады,*
*Быкаў!..*

**Алег БЭМБЕЛЬ**

**Чэрвень 1989 — чэрвень 1994.**

# ЧАС ЖНІВА

***17 чэрвеня ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, што ў Траецкім прадмесці, адкрылася выстава, прысвечаная 70-годдзю народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Апрача шаноўнага юбіляра ва ўрачыстай імпрэзе брали ўдзел прадстаўнікі патрыятычнай грамадскасці, літаратуры, народныя дэпутаты, Пасол Французскай Рэспублікі Клод Жаліф і часовы паверaны ў справах Рэспублікі Малдова Думітру Мунцяну. На вечарыне шмат гаварылася аб вялікім уплыве літаратурнай і грамадскай дзейнасці Васіля Быкава на развіццё культуры і адраджэнне дзяржаўнасці Беларусі, гучалі пажаданні здароўя і новых творчых перамог.***

У жыцці кожнага чалавека 70 год, напэўна, можна назваць часам жніва, часам асэнсавання ды "інвентарызацыі" сваёй біяграфіі. Але не кожнаму ёсць на што азірнуцца ў пражытым без абурэння на лёс і сораму. Асабліва, калі гэты чалавек жыве, як Быкаў, не столькі асабістымі ўспамінамі, колькі гістарычным досведам свайго шматпакутнага народа. І таму асабісты архіў народнага пісьменніка, перададзены музею, мае, як падкрэсліў ягоны дырэктар Леанід Хадкевіч, не толькі навуковую, але і вялікую эстэтычную каштоўнасць: амаль кожная рэч тут — нібыта кандэнсатар лепшых якасцяў беларускага характару, матэрыяльнае апірышча нашай з вамі духоўнасці.

Вядомы паэт Рыгор Барадулін адзначыў у сваёй прамове, што дзякуючы творам Быкава свет пачуў голас беларускага сумлення, якое не здолеў вынішчыць сталінскі рэжым. Не дзіва, што апостала нацыі люта ненавідзяць сучасныя і былыя, перафарбаваныя камуністы. І хай сабе ёсць пісьменнікі, якія ўсхвалявана чакаюць свайго юбілею ў спадзяванні, што Народнымі іх зробіць пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета, народу непатрэбная санкцыя органаў улады, каб любіць Быкава і ягоных герояў. Дарэчы, у выдавецтве "Мастацкая літаратура" толькі што выйшаў шосты том збору твораў Быкава.

Васіль Зуёнак, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў, таксама пацвердзіў, што Васіль Быкаў — гэта эпоха не толькі нашай літаратуры, але і гісторыі. Да мужнага слова гэтага чалавека прыслухоўваюцца ўсе патрыёты Беларусі, усе людзі, што шукаюць шляхі да лепшае будучыні для нашай краіны. Вялікая адказнасць і вялікі гонар — жыць побач з такім чалавекам.



Намеснік міністра культуры і друку, паэт Генадзь Бураўкін павіншаваў юбіляра і пажадаў яму як мага мацнейшага здароўя, бо яно з'яўляецца гарантам здароўя ўсёй нацыі. "Гэтае свята, — падкрэсліў паэт, — перш за ўсё, нашае супольнае свята, а ўжо потым тваё".

Старшыня Мінскага гарсавета Аляксандр Герасіменка падарыў пісьменніку зграбна выразаную "Пагоню" і сімвалічны ключ ад горада.

З віншавальнымі прамовамі і падарункамі выступілі таксама сын Якуба Коласа Даніла Міцкевіч, Міхась Белямук (ад беларусаў Амерыкі) і старшыня праўлення Таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі Арсен Ваніцкі. Паводле апошняга, без Васіля Быкава нашыя адносіны з народам Германіі былі б не такія добрыя: Быкаў не адзін год узначальвае Таварыства беларуска-германскай дружбы. "Асалода для нас — бачыць, з якой павагай ставяцца да Вас замежныя грамадзяне".

Вельмі пранікнёна, з найвялікшай павагай гаварыў старшыня Сойму БНФ Зянон Пазьняк: "З Вамі — мая любоў, мая падтрымка. Беларусы — шчаслівы народ: якім бы цяжкім ні быў лёс нацыі, заўсёды апірышчам ёй былі мудрацы, маральныя аўтарытэты. У 1920 — 30-я гады такім чалавекам быў Янка Купала. Ворагі беларушчыны баяліся яго, як агню, і таму знішчылі фізічна. Цяпер яны не маюць былой моцы і таму спрабуюць знішчыць Васіля Быкава хлуснёй. Тыя, хто кінуў камень у Быкава, здольныя кінуць яго і ў Бога, і ў любоў, і ў народ. Кінуты ў яго камень — гэта камень ва ўсіх нас. Побач з гэтым чалавекам кожны з нас адчувае адказнасць за нашу зямлю і культуру".

Нарэшце, слова ўзяў сам юбіляр. Ён падзякаваў усім прамоўцам за прыгожыя кветкі і "надта громкія" словы. Адносна выставы Быкаў сціпла паскардзіўся на прафесію: маўляў, у пісьменніка выстаўляць няма чаго, бо ўсё сапраўды вартае ўвагі ён трымае ў творах і ў галаве. "Тым не менш штосьці набралася, і я буду ўдзячны, калі каго-небудзь зацікавяць гэтыя аскепкі майго жыцця".

Аўтары канцэпцыі выставы (галоўны захавальнік музея Валянціна Ціханавецкая і мастак Генадзь Чысты) з дапамогай дэкаратыўных элементаў паспрабавалі адлюстраваць два бакі лёсу пісьменніка і самой нацыі: інтэр'ер залаў вырашаны ў святочных бел-чырвона-белых альбо, наадварот, у трагічных бела-чорна-белых танах. Тэматычна экспазіцыя падзяляецца на дзве галіны, што знаёмяць наведнікаў з літаратурнай і грамадскай дзейнасцю Васіля Быкава. У першай яе частцы змешчаны чарнавікі рукапісаў і выданні ягоных аповесцяў на розных мовах, кінасцэнары і афішы спектакляў, ілюстрацыі Арлена Кашкурэвіча ды іншыя "люстэркі" творчасці пісьменніка. А ў другой — паліталагічныя артыкулы Быкава ў газетах, пасведчанні дэпутата Вярхоўнага Савета ранейшых скліканняў і члена Саюза пісьменнікаў, фотаздымкі з дэманстрацый і з'ездаў Народнага фронту. Воссю ж сіметрыі літаратара і грамадзяніна сталіся, з аднаго боку, сілуэт вясковага хлопчыка пад фотаздымкамі ягоных бацькоў і, з іншага, шынель і аўтамат, з якімі прайшоў вайну Быкаў, ягоныя лісты з фронту. Бо менавіта ў дзяцінстве і трагічным досведзе франтавіка, у часе спаткання з уласным жыццём і чужой смерцю — карані бескампраміснага таленту Васіля Быкава, народнага пісьменніка і грамадскага дзеяча.

**Наш кар.**

## "ЗАЛАТАЯ КАРЭТА" ВЫПРАЎЛЯЕЦЦА Ў ЕЎРОПУ

*Міжнародная міратворчая экспедыцыя "Залатая карэта" рыхтуецца да падарожжа па Цэнтральнай і Заходняй Еўропе. Маршрут пройдзе праз дзесяць краін свету, сярод якіх будуць Польшча, Германія, Бельгія, Галандыя, Францыя, Італія, Швейцарыя, Аўстрыя, Венгрыя.*

*Расказвае адзін з арганізатараў вандроўкі, мастацкі кіраўнік экспедыцыі кампазітар Ігар ДОБРЫ.*

**— Чаму экспедыцыя атрымала такую назву?**

— Як нам падаецца, назва "Залатая карэта" не толькі арыгінальная і прыгожая, яна звязана з нашай гісторыяй. Легенды, чуткі, навуковыя гіпотэзы пра залатую карэту ідуць з пачатку XIX стагоддзя і звязаны з падзеямі вайны 1812 года. Гісторыкі выказваюць сваю версію паходжання гэтай таямнічай карэты. Я магу толькі сказаць, што наша "Залатая карэта" — гэта карэта міру і дружбы.

У рамках праграмы "ЮНЕСКО — Чарнобыль" пройдзе наш дабрачынны, міратворчы шлях. Мы наведаем штаб-кватэру ЮНЕСКО ў Парыжы.

**— Хто ініцыятар правядзення міжнароднай экспедыцыі?**

— Ідэя пераадолець гэты вялікі ваенны шлях — шлях Напалеона — прыйшла з Барысава. Яна належыць вядомаму турысту Валерыю Кароліну, які прайшоў шлях, роўны экватару і якога сёння ўжо можна лічыць легендай беларускага турызму.

**— Наколькі вядома, вамі запланаваны розныя культурныя мерапрыемствы, напрыклад, так званы "Беларускі павільён". Раскажыце аб ім падрабязней.**

— Так. Па руху маршрута будзе працаваць беларускі павільён нацыянальных традыцый, які прадставіць народныя промыслы, рамяство, вырабы беларускіх майстроў. Рыхтуецца адпаведная абрадавая праграма з элементамі сучаснай моды, якая будзе суправаджаць і ўпрыгожваць наш "Беларускі павільён".

Мы паспрабуем паказаць усё лепшае, што ёсць у нашай дзяржаве. Зараз ідзе прагляд мастацкіх калектываў і выканаўцаў, твораў народнага рамяства.

**— Якія яшчэ мэты ставяць перад сабой удзельнікі вандроўкі?**

— Экспедыцыя "Залатая карэта" апроч таго, што яна з'яўляецца ваенна-патрыятычнай, культурнай, нясе вялікую хрысціянскую місію ад храма святога Аляксандра Неўскага да ўсіх праваслаўных храмаў па маршруце падарожжа.

**— Значыць, "Залатая карэта" будзе пасланцом Беларусі ў іншыя краіны Еўропы?**

— Безумоўна. Мы ставім на мэце прыцягнуць увагу сусветнай грамадскасці да Беларусі. Апрача таго, у задачу міратворчай экспедыцыі ўваходзіць: знаёмства з нашай краінай — еўрапейскай незалежнай дзяржавай, якая праводзіць палітыку міру, сяброўства, супрацоўніцтва. Па-другое, мы будзем імкнуцца паказаць нашу яркую самабытную культуру, багатыя народныя традыцыі.

Я лічу, што ў гэтым накірунку трэба працаваць яшчэ шырэй. Быць больш актыўнымі.

Няхай шпарка праімчыцца па кантыненце наша "Залатая карэта"! Хай людзі з іншых краін больш даведаюцца пра Беларусь і беларусаў!

**Надзея АЛЕКСІНА.**

## "ЭХ, ЛАПЦІ МАЕ, ЛАПЦІ ЛЫКАВЫЯ"

Відавочна, што самым ненадзейным прадметам з усіх неабходных для паўсядзённага жыцця рэчаў з'яўляецца абутак. Нягледзячы на шматлікі выбар тавараў як айчыннай, так і замежнай абутковай прамысловасці, што мы назіраем у крамах, якасць іх невысокая. Пра цэны ўжо і гаварыць не хочацца... Вось тут і задумваешся ўсур'ёз: а ці не скінуць усім нам разам цяжкі і цесны скураны абутак ды перайсці на... лапці.

Дарэчы, да прыкладу продкаў вяртаюцца жыхары горада Віцебска. Кажуць, сёння ледзь не кожны другі віцяблянін ходзіць у лапцях. Не здзіўляйцеся, пакуль не па вуліцах — у хаце. Але, як некаторыя з сумам зазначаюць, — да пэўнага часу. А набываюць жыхары горада над Віцьбай гэтыя адмысловыя вырабы ў мясцовым мастацкім салоне. Як ні дзіўна, такую сур'ёзную канкурэнцыю абутковым прадпрыемствам вось ужо чатыры гады ставарае Якаў Цемнікаў.

Пляценню яго навучыў родны дзядзька яшчэ ў далёкім дзяцінстве. Але ў тыя часы гэткае рамяство не было ў модзе. А зараз, як бачыце, "пайшло". Прыгадаў Якаў даўно ўжо забытыя навыкі. Уласнымі рукамі зрабіў вярацяно, каб сучыць аборку, свайку з драўлянай ручкай для пляцення, калодкі розных памераў і... пачалася праца: вельмі карпатлівая і патрабуе шмат часу і цярпення.

Спачатку сплёў майстар лапці сабе, жонцы, зрабіў незвычайны падарунак сваім дзецям. Але выйшла так, што не адной толькі ягонай сям'і прыйшоўся да спадобы гэты абутак. Неўзабаве пасыпаліся заказы ад суседзяў і знаёмых да. Нарэшце вырабамі майстра зацікавіліся і шматлікія гарадскія фальклорныя гурты, артысты Дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. Першая партыя лапцей, ажно дзесяць пар, трапіла нават у адзін са смаленскіх тэатраў.

Якаў ужо і не памятае, колькі ўсяго лапцей сплёў ён за гэты час. Стаміўся лічыць. Ведае адно — шмат. А прадае, па сённяшніх паняццях, вельмі танна. У віцебскім мастацкім салоне яны каштуюць усяго па дзесяць — пятнаццаць тысяч "зайцоў" за пару.

Бывае, сплеце чарговую пару лапцей Якаў, возьме з паліцы баян і заспявае: "Эх лапці мае, лапці лыкавыя..." ці яшчэ якую прыпеўку, каб абутак, што дайшоў ад нашых продкаў, лепей насіўся. Але, на жаль, нядаўна майстру прыйшлося занесці свой стары музычны інструмент у камісійную краму, бо тымі грашамі, што атрымлівае віцебскі пляцельшчык за сваю справу, дужа не разжывешся. Але рамяство гэтае ён кідаць усё роўна не збіраецца. Галоўнае — яно людзям патрэбнае. А тут яшчэ кажуць, што лапці, сплеценыя з ільняных аборак, добра ўплываюць на здароўе ўсяго арганізма і нават лечаць ногі.

Мо і праўда, наспеў час усім нам прыдбаць па пары-другой лапцей — так, на ўсялякі выпадак. Калі ўжо іншага выйсця не будзе...

**Алена ДАРГЕЙКА,**
студэнтка факультэта журналістыкі БДУ

## У АДВЕЧНЫМ РУХУ



У Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь адкрылася выстава твораў мастака Уладзіміра Мехавіча пад назваю "Адвечны рух".

Каля трыццаці графічных работ прадстаўлена ў экспазіцыі. Кожная з іх — роздум, асэнсаванне рэчаіснасці, імкненне як глыбей спасцігнуць рэчаіснасць.

Трыццацісямігадовы мастак браў удзел у шматлікіх выставах, ягоныя творы дэманстраваліся ў многіх гарадах Беларусі, Маскве, Нью-Ёрку, Катавіцах.

Уладзімір Мехавіч удасканальваўся ў розных тэхніках, яму падуладныя каляровая літаграфія, афорт, акватынта, сухая голка...

Работам мастака ўласцівыя лірызм і паэтычнасць. У нізцы твораў "Сусвет прыгажосці" ўраджэнец непаўторнага Нарачанскага краю тонка перадае сваё адчуванне прыгожага.

Не пакідае абыякавым мастака лёс і будучыня радзімы, што знаходзіць адлюстраванне ў ягоных творах. Трыпціх "Край мой" — работы "Да хрысціянства", "Alba Rossika", "Зона" — прысвечаны гэтай тэме.

У серыі "Карабель дурняў" графік імкнецца адлюстраваць складанасці і супярэчлівасці нашага часу.

Тое, што можна пабачыць на выставе, — частка работ Мехавіча. Шмат ягоных твораў знаходзіцца ў зборах Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Гродзенскім мастацкім музеі, Катавіцкім дэцызіяльным музеі, у прыватных зборах ЗША, Швейцарыі, Германіі, Польшчы, Чэхіі, Ізраіля.

Арганізавалі выставу "Адвечны рух" Нацыянальная бібліятэка, шматфункцыянальны выставачны комплекс "На ростанях", творчая майстэрня "Alba art atelier".

**Наталля АЛЕСІЕВІЧ**

# ХАТА ПАД КЛЁНАМ

## ХТО ЁСЦЬ ХТО

Клён быў вялікі, а хата — маленькая. Абодвы — старыя, але клён усё ж маладзейшы, бо мой прадзед Людвік Антонавіч пасадзіў яго якраз у гонар набыцця "ўласнага дома" — сціплай будыніны, якая і ў тым далёкім 1910 годзе была ўжо даволі сталага веку.

Прадзед быў обер-кандуктарам, жыў "на колах", а з тых грошай, што ён дасылаў жонцы на гаспадарку (у іх было дзесяцёра дзяцей), прабабка ўмудралася яшчэ тое-сёе адкладваць. І пасля шматгадовай жорсткай эканоміі Людвік Антонавіч і Францішка Рафалаўна сталі "домаўладальнікамі".

На той час, як я нарадзілася, хата была падзелена на тры часткі, якія гучна называліся "кватэрамі". У першай (колішняй "чыстай") месцілася сама прабабка, яе малодшая дачка Алена і двое ўнукаў: Стась і Іра. У другой (колішніх вялікіх сенцах) жыла наша сям'я: мама з татам і мы з сястрой. (Мама — старэйшая з унучак Францішкі Рафалаўны). Гаспадыняй трэцяй каморкі была Зося, сярэдняя дачка Францішкі. З ёю жылі дзеці — Віктар і Муза. Такім чынам, хатка пад клёнам дала прытулак ажно чатыром пакаленням.

На самой справе Алена і Зося былі нам з сястрой стрыечнымі бабкамі, а Стась, Іра, Віця і Муза — стрыечнымі дзядзькамі і цёткамі, але цёткамі мы называлі бабак (бо яны былі значна маладзейшымі за нашу родную бабку Маню), а іхніх дзяцей успрымалі як старэйшых братоў і сясцёр.

Што ж да прабабкі, дык яе ўсе — і праўнукі, і ўнукі, і, здаецца, нават дочкі — называлі аднолькава: баба Франя. Калі я нарадзілася, бабе Франі было ўжо за восемдзесят, але яна любіла дадаць сабе яшчэ некалькі гадоў — гэткае своеасаблівае старэчае какецтва...

## НАШ ПОБЫТ

Жылі мы бедна, але я не разумела гэтага, бо так жылі ўсе: і суседскі Дзімка, з якім я сябравала, і застрашэнец вуліцы хуліган Сярожка, у якога на назе трамваем адрэзала пальцы, і вулічны прыдурак Сцёпка, якога мы і шкадавалі, і бязлітасна дражнілі, і ўладальніца дзвюх курыц старая пані Праляскоўская, у якой мы іншым разам набывалі пару яек у абмен на пэўную колькасць яечнага шалупіння...

Мяне не бянтэжыла, што ўзімку ў пакой праз шчыліну намятала снегу — затое не скісаў суп, пастаўлены на ноч у кут (пра халадзільнік мы не толькі не марылі, але, здаецца, і не ведалі, што існуе ў прыродзе такая рэч). Самі мы не мерзлі, таму што ўвесь час былі ў валёнках. Мама ганарылася, што ў дзяцінстве мы ніводнага разу не хварэлі на запаленне лёгкіх.

Праўда, у пяць гадоў са мной-такі надарылася непрыемнасць — поліартрыт. Месяц я праляжала ў ложку з апухлымі суставамі, затое падчас хваробы па-сапраўднаму прыахвоцілася да чытання —прычым пачала адразу з "тоўстых" кніжак. Маім першым раманам стаў "Рабінзон Круза". Потым я з шалёнай хуткасцю глытала адзін за адным сінія томікі Жуля Верна — у Стася быў поўны збор твораў.

Так, мы не мерзлі, але апратка нашая, хоць і цёплая, выглядала як уборы якіх-небудзь фантастычных "паўночных лацароні": сто разоў перашытая, латка на латцы — надзвычай маляўнічая. Захавалася шмат нашых з сястрой тагачасных здымкаў (дзякуй Стасю, які вельмі рана навучыўся фатаграфаваць) — дык з іх можна было б скласці цэлы альбом з няхітрым назовам "Жыццё і побыт дзяцей пасляваеннай пары".

## "ДАЛОЎ КАЗУ!"?

Жылі мы амаль што ў цэнтры Мінска — побач з праспектам Сталіна. Але лад жыцця на Сляпянскай вуліцы быў хутчэй вясковы. Па нашым двары заўсёды бегала некалькі "агульных" сабак, а на сонейку грэліся каты і кошкі.

Галоўнымі жывёламі былі, безумоўна, козы. Яны, напэўна, мяняліся, але для мяне ўсе здаваліся "на адзін твар" — хітрыя, нахабныя, заўсёды гатовыя ўбіцца ў шкоду. Напрыклад, забегчы ў нашую хату і хуценька зжэрці кавалак няшчыльна прыклееных шпалераў. Прычым і зваліся яны аднолькава. І калі цётка Лена пачынала гучна клікаць: "Сарна, Сарна, Сарна!" — мне ў гэтым чулася штосьці непрыстойнае (хоць слова "сарна" — гэта ўсяго толькі "дзікая каза" па-польску).

Даглядала коз галоўным чынам баба Франя — збірала траву, вадзіла да казла. Але даіць у яе ўжо не было сілы, таму даенне чарговай Сарны ўскладалася на цётку Лену ці на Стася, які рабіў гэта вельмі спрытна. Бывала, прыходзілі да яго дзяўчаты, а ён ім спакойна і неяк нават ганарліва паведамляў, што пакуль заняты — трэба казу даіць. Павязваў фартух і ішоў у хлеў.

Праўда, іншым разам ён быццам бы і "бунтаваў": змайстраваў, напрыклад, стол для гульні ў пінг-понг, а на баку стала буйнымі літарамі вывеў: "Далоў казу!" Але гэта было, безумоўна, жартам, бо без казы наша небагатае жыццё стала б яшчэ бяднейшым.

## СТАСУНКІ З БОГАМ

Баба Франя была шчырай каталічкай і, канечне, ахрысціла і маю сястру, і мяне, ледзь толькі мы з'явіліся на свет. Да ксяндза ехаць не было як: на той час у Мінску не было ўжо ніводнага дзеючага касцёла. Ды й невядома, як да таго паставіўся б мой бацька — тады перакананы атэіст (гэта цяпер, у старасці, штосьці змянілася ў ягонай душы...).

Паколькі бацьку ўсе сваякі з матчынага боку вельмі паважалі і пабойваліся, прабабчын удзел у нашым рэлігійным выхаванні звёўся да мінімуму. Яна навучыла мяне жагнацца ("У імя Ойца, Сына і Духа Свентэго... А потым складзі ручкі і скажы: дзенькую Божаньку..."), а малітвам вучыць нават не спрабавала.

Стасю, унуку, пашанцавала больш. Калі ён быў малы, бабка плаціла яму рубель за кожную вывучаную малітву — а памяць у хлопца была выдатная... Гэтыя веды — праз шмат гадоў — дапамаглі яму зрабіць сапраўдны фурор у Кракаве, дзе ён чытаў курс лекцый па фізіцы. "Вось пан быццам бы і ведае польскую мову, — сказалі тамтэйшыя знаёмыя, — але ці ўмее пан маліцца па-польску?" Тады Стась і выдаў — без запінкі — усю серыю: і "Ojcze nasz", і"Wierzę", і "Zdrowaś"...

Нягледзячы на тое, што ў хатцы пад клёнам стасункі з Богам былі справай выключна прабабчынай, рэлігійныя святы адзначаліся ўсімі. Асабліва ўрачыста — Божыя Народзіны. (Гэтае свята і агульны прыўзняты настрой я, між іншым, выкарыстоўвала ў сваіх мэтах: знаходзіла спосаб "далікатна" нагадаць прысутным, што пасьлязаўтра, 27 снежня, таксама дзень нараджэння. Мой! А потым задаволена "збірала даніну".)

На Вялікдзень усе фарбавалі яйкі: у нас і ў цёткі Лены — самым "традыцыйным" спосабам, у адвары цыбульнага шалупіння, а ў цёткі Зосі яйкі былі незвычайныя — сінія, за што намі, дзецьмі, асабліва цаніліся.

Адно з самых яркіх уражанняў дзяцінства — агульны, усёй вялікай сям'ёй, выезд на Кальварыйскія могілкі. Не скажу дакладна, калі гэта было: ці на Дзень Задушны ў лістападзе, ці трэцяга траўня, калі католікі таксама памінаюць сваіх нябожчыкаў. Памятаю, што зялёнага лісця не было (абляцела або не паспела распусціцца), надвор'е — шэрае, змрочнае. І вялікае мноства груганоў, што крычалі на дрэвах, якія здаліся мне надзвычай высокімі.

А яшчэ — натоўп жабракоў каля брамы. Мне далі ў кішэню колькі манетак, я спалохана тыцкала медзякі ў працягнутыя з усіх бакоў далоні, і мне было вельмі страшна (сярод жабракоў было шмат пакалечаных і кантужаных ад вайны).

На могілках спачывалі муж бабы Франі і двое яе братоў. А зараз там ляжыць і сама баба Франя. Стась паставіў ёй і дзеду аднолькавыя крыжы з надпісамі на беларускай мове, і выглядае гэта пэўнай экзотыкай паміж польскімі і рускімі тэкстамі...

Два разы на год мы з сястрой і дзецьмі прыязджаем сюды, запальваем свечку. Здараецца, у адзін час з Ірай, Стасем і іх дзецьмі. І мне здаецца, баба Франя ведае і радуецца, што яе не забылі. Мая дачка — гэта ўжо яе праправўнучка.

## МОВЫ НАШЫХ ЗНОСІНАЎ

"Рабочых" моў было тры: руская, беларуская і польская. Польская гучала найрадзей, карысталася ёю мая бабуля Маня падчас сваіх візітаў, прычым па-польску размаўляла ў тых жа прыкладна выпадках, у якіх рускія дваране размаўлялі па-французску: калі тэму размовы лічыла непрыдатнай для пабочных (звычайна — дзіцячых) вушэй. Мы ж, дзеці, усё цудоўна разумелі і ціхенька пасмейваліся...

Цётка Лена, хоць яна калісьці (не на маёй памяці) была і "польскамоўнай пісьменніцай", размаўляла па-руску. Рускую мову яна выкладала і ў школе, дзе ўмела рабіць цуды з самымі непаслухмянымі класамі. Вельмі любіла рускую літаратуру, асабліва "Вайну і мір". Дзеля таго, каб разумець усе салонныя дыялогі, нават займалася французскай мовай...

Малодшыя пакаленні між сабой размаўлялі па-руску, толькі Стась пэўны час захапляўся... польскай лаянкай, зрэшты, зусім бяскрыўднай: psiakość, psiawiara і асабліва psianoga.

Баба Франя па-польску толькі малілася (але ў гэта ніхто не ўслухоўваўся), а яе "свецкая" гутарка была выключна беларуская. Гэтак жа ёй і адказвалі.

Я вельмі рана навучылася чытаць, і мне было ўсё роўна, па-руску я чытаю ці па-беларуску. Любімы томік Янкі Маўра ведала амаль напамяць. Калі ж прыйшоў час аддаваць мяне ў школу, я пайшла ці не ў апошні на тыя гады беларускамоўны клас. Але так здарылася, што пасля першага беларускамоўнага я адразу трапіла... у трэці рускамоўны.

Тым маё "нацыянальнае выхаванне" і скончылася: неўзабаве мяне перавялі ў прэстыжную "англійскую" школу, дзе беларуская мова ўвогуле не вывучалася — толькі літаратура, прычым адказваць дазвалялася па-руску. У маіх пасведчаннях за восьмы і дзесяты класы ў графе "беларуская мова" стаяць прочыркі...



Алёна. Здымак Стася Шушкевіча. Мінск, 1953 год.

## МЫ І ПАЛІТЫКА

Усе тры сям'і, што месціліся пад страхой нашай агульнай хаты, пацярпелі ад рэпрэсій. Цётка Лена і цётка Зося страцілі мужоў, а мая мама — бацьку. Калі "Вячэрні Мінск" стаў друкаваць спісы ахвяр, мы з сястрой нарэшце даведаліся, што наш дзед абвінавачваўся ў прыналежнасці да "Саюза вызвалення Беларусі". На самой жа справе забралі яго, няйначай, за тое, што ён выкладаў матэматыку на беларускай мове, а да гэтага быў супрацоўнікам Інбелкульту.

Апошняе сваё пісьмо дзед прыслаў з Уладзівастока — паведаміў, што яго адпраўляюць у бухту Нагаева. У яго засталося чацвёра дзяцей. Маме, старэйшай, было тады пятнаццаць, яе малодшаму брату — сем. "Не смей играть с сыном врага народа!" — крычала са свайго ганка жонка кампазітара Чуркіна, калі бачыла, што ейнае дзіцятка набліжаецца да малога Віці...

Пакуль мама не была яшчэ дачкой "ворага народа", яна хадзіла ў гурток юных дыктараў і нават дэкламавала, на пару з яшчэ адным юным дыктарам, "Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну". Запісаў тады не было, усё адразу ішло ў эфір. І вось сталася, што яе партнёр замест "ты нашых садоў і палёў красаванне, ты наша жыццё, дарагі правадыр" выдаў іншую версію: "Ты нашых задоў і палёў красаванне..." Супрацоўнікі радыё былі ў здранцвенні, але, дзякуй Богу, абышлося...

Сталіна ў нашай хатцы, канечне, ненавідзелі і баяліся. Але калі ён памёр (як расказвала мама — я гэтага яшчэ не магла памятаць), радасці не было: здавалася, што пачнецца штосьці яшчэ больш жудаснае. Адна толькі баба Франя захавала філасофскі спакой і пракаменціравала падзею так: "Не будзе Грышы — будзе чорт іншы". Яна ўвогуле была асобай глыбока апалітычнай і зусім не разбіралася ў бягучым моманце. Яе старэйшая дачка, мая бабуля Маня, да сваіх апошніх дзён вельмі паважала Хрушчова — за тую даведку аб рэабілітацыі, якую яна атрымала замест свайго замардаванага мужа. А баба Франя, здаецца, нават не ведала, хто такі Хрушчоў.

Калі любімы ўнук Стась разжыўся магнітафонам, ён іншым разам правакаваў бабу Франю на "палітычныя" размовы: прасіў, напрыклад, дзесяць рублёў, каб "выпіць за здароўе Хрушчова" — у таго, маўляў, дзень нараджэння. У сваіх рэпліках у адказ бабка была надзвычай знаходлівая і непасрэдная!

Не ведаю, ці захаваліся тыя магнітныя стужкі. Захавалася іншае: старыя кнігі і падшыўкі часопісаў, дзе маёй дзіцячай рукой было старанна пазамазвана прозвішча Сталіна, а ўверсе надпісана коратка і ясна: "Дурань!" Тады гэта мне здавалася вельмі сур'ёзнай абразай...

## ПЕРАЕЗД

Тым часам мае бацькі з вялізнай напругай, цягнучы па дзве пасады, эканомячы на ўсім, будавалі дом. Трохпакаёвы! З водаправодам! З газавай плітой!

Мама, замучаная побытавай неўладкаванасцю, не магла дачакацца пераезду. А я, калі бралі мяне на будоўлю, адчувала сябе там вельмі няўтульна. Асабліва мізэрным здаваўся так званы "сад" — тырчэлі з зямлі вартыя жалю тоненькія дубцы — ну хіба іх можна параўнаць з зараснікамі маліны на Сляпянскай, з нашым клёнам, чаромхай, бэзам? І так далёка гэта ўсё — быццам у іншым горадзе...

Пераезд прызначылі на 5 снежня — дзень Канстытуцыі. Падчас збораў (галоўным скарбам былі кнігі і карціны) я больш за ўсё хвалявалася, ці прыжывуцца на новым месцы нашыя дзве кошкі. Яны драпаліся, шыпелі і зусім ашалелі ад мітусні.

Але збег у рэшце рэшт сабака, чорная Жучка, якую я некалі на руках данесла ад Батанічнага сада да Камароўкі. І гэта была не адзіная страта...

Потым, праз гады, калі ад хаткі пад клёнам не засталося і следу, мы запознена спахапіліся, што ў пераезднай эйфарыі (і цётка Зося, і цётка Лена неўзабаве атрымалі кватэры) мы так легкадумна паставіліся да "старога хламу", які варта было адрамантаваць і зберагчы. Напрыклад, да мэблі з "дому Ваньковічаў" — яна трапіла на Сляпянскую ў пачатку дваццатых гадоў, калі Ваньковічы з'язджалі за мяжу падчас польскай акупацыі. Баба Франя наймалася да іх мыць падлогу, і гаспадары прапанавалі: бярыце ўсё, што можаце. Нават калёсы далі для гэтай мэты. А ў рэшце рэшт ад гэтых музейных рэчаў застаўся толькі стары буфет (у Ірыны) і некалькі талерак (у нас).

Памяццю пра Сляпянскую вуліцу сталі некалькі дрэў, перасаджаных з былога саду, і некалькі кустоў бэзу і агрэсту. Шмат разоў мы збіраліся выкапаць маладзенькі клёнік — каля філармоніі нейкі час упарта падымаліся дзеці таго старога, прадзедаўскага клёна, — але так і не выбраліся. А клён застаўся толькі на Стасевых фотаздымках і на эцюдах бацькі.

... Дарослыя весяліліся, Стась іграў на акардэоне, спявалі. Потым усе паехалі яшчэ некуды на дзень нараджэння, а мы з сястрой засталіся адны ў пустым, чужым і няўтульным доме. Ледзь знайшлі матрацы і коўдры і палеглі спаць — на падлозе. Мне было тады дзесяць гадоў, але я адчувала — дзяцінства скончылася. Цяпер усё будзе іншым...

## НА ЗАКАНЧЭННЕ

Бабы Франі, цёткі Лены і цёткі Зосі даўно няма ў жывых. Памёр і Віця — ён быў першым з "сярэдняга" пакалення, пакалення ўнукаў бабы Франі. А ўсе астатнія жыхары хаткі пад клёнам, раскіданыя па розных канцах вялікага горада, збіраюцца ў поўным складзе толькі на пахаваннях...

Мой бацька зрабіўся вядомым мастаком. Сястра — таксама мастачка. Я марыла аб філалогіі, ды ўбілася ў журналістыку — паўтарыла лёс маёй мамы. Муза і Ірына сталі інжынерамі. Стась — спачатку фізікам, а потым — адным з "белавежскіх зуброў".

Што ж, у кожнага свой шлях...

**Алена ГРАМЫКА**

Мікола КАПЫЛОВІЧ

# СТАРЫЯ Ў ВЁСЦЫ

## Нататкі пісьменніка

На далёкім хутары паміраў адзінокі стары. Гэта быў чалавек з сялянскага роду, калгаснага звання. Паміраў ён у сваёй хаце, некалі добрай і ветлівай, а цяпер халоднай і запусцелай.

І вось ён паміраў. Астывалі ўсё больш і больш пад коўдраю яго рукі, ныла апошнім болем сэрца. І толькі трывожныя думкі мільгалі ў яго галаве, клапоцячыся аб апошнім: каб не доўга ляжаць мерцвяком у ложку, каб суседзі знайшлі ўсё тое, што ён на смерць падрыхтаваў, каб у час дзецям тэлеграму адбілі і апошнюю пенсію аддалі на пахаванне.

Стары падрыхтаваўся да смерці. У рассохлай шафе вісеў амаль новы пінжак з ордэнамі і медалямі, у якім ён некалі выходзіў на людзі. Так, ён ваяваў. Ну, а пасля вайны працаваў. Араў, сеяў, касіў, пасвіў жывёлу — ці мала чаго перарабілі за ўсё жыццё яго рукі. Дом вось паставіў. Дзяцей таксама паставіў на ногі. Усё быццам паспеў. Паспеў, але стаміўся. Стаміўся з кійком двойчы ў тыдзень дабірацца да сельмага за двума боханамі хлеба, стаміўся апускацца ў пограб па бульбу і капусту, стаміўся хадзіць на другі канец бязлюднай вуліцы па ваду, стаміўся на былым дрывотніку збіраць трэскі, каб запаліць у печы ды зварыць які-небудзь харч.

Адразу пасля смерці жонкі ён яшчэ неяк трымаўся, а потым цяжка стала з жыццёвымі клопатамі змагацца. Што есці-піць, калі няма гаспадаркі? А як прывезці з лесу дровы? А пасадзіць і выкапаць бульбу? Тут нічога без бутэлькі і тысяч не зробіш. А тысяч тых у пенсіі колькі? Зусім мала.

А пасля ён памёр. Пахавалі сціпла. Дзеці не прыехалі, а начальству калгаснаму і сельсавецкаму — не было калі.

Труну, праўда, прывезлі з цяслярскай брыгады, а калёсы пакінулі, бо данесці труну нямоглым бабулькам, што засталіся ў вёсцы, па асенняй каламуці было немагчыма.

Вось і ўсё пра апошні момант жыцця адзінокага вясковага старога жыхара.

Цікавіцеся, як яго звалі? Добрае ў яго было званне. Хлебароб. Селянін. І прозвішча мілагучнае — нашае, беларускае, і не адзінае ў сваім гучанні — з такімі, як у яго, прозвішчамі жывуць на гэтым свеце шмат людзей. Так што не так ужо і важна, якое менавіта было ў нябожчыка прозвішча, бо з яго смерцю не скончыліся мукі тысяч адзінокіх старых, якія жывуць у блізкіх і далёкіх вёсках.

Пачаў я свой аповяд з горкага лёсу аднаго з іх зусім не таму, каб "выціснуць" у кагосьці слёзы. Не, слязамі, няхай сабе і спачувальнымі, гора старых не зальеш і ачарсцвеласць душы не ачалавечыш: сёння, па майму цвёрдаму перакананню, ужо трэба весці размову не пра дапамогу ім, а аб іх выратаванні. Так, аб выратаванні. Выратаванні не ад смерці, не ад хвароб — гэта нам непадуладна. Але аб выратаванні ад ганьбы, якою пэцкаем сябе перад тварам усяго свету і тварам будучых пакаленняў суайчыннікаў, пакідаючы нашых бацькоў, былых прадаўжальнікаў нашых сялянскіх родаў і дынастый, на дажыванне ў нечалавечых умовах. Мільёны зярнят, што засталіся ад сялянскага снапа пасля "ўдарнага" абмалоту сістэмай. Самая што ні ёсць хітрая хітрасць не схавае нас ад гарапашнай жыццёвай праўды — іх падманулі. Іх, што заклалі цагліны ў падмурак калгасаў і саўгасаў. Іх, што пайшлі абараняць родную зямлю ад ворага радавымі пехацінцамі —аратымі страшнай вайны. Іх, што атрымалі вельмі ж дарагою цаною святую Перамогу. Іх, што адбудавалі родныя вёскі, якія потым аб'явілі неперспектыўнымі. Іх, што трымалі кожны новы "далейшы ўздым сельскай гаспадаркі", аддавалі хлеб, малако, мяса амаль "за так", толькі б выкупіць чарговыя калоны трактараў, гімалаі хімічных угнаенняў і не пакінуць тым самым брата-рабочага без заробку, інжынера — без прэміі, вучонага — без звання.

Вось усіх гэтых старых вяскоўцаў, выціснуўшы з іх апошнія сокі, сістэма пакінула на ўзбочыне шматразова абяцаных "светлых курсаў".

Наш боль — старыя вяскоўцы. Менавіта старыя — былыя апекуны сем'яў, нечыя бацькі, якія далі шмат каму свае прозвішчы, — цяпер у беспрасветнасці і безвыходнасці свайго лёсу. Згодзен, вялікія пакутніцы — адзінокія вясковыя бабулькі, але ўжо зусім недарэчная з'ява — дзяды. Ад сваіх сяброўак па "ганаровай старасці" яны найперш адрозніваюцца большай непрыстасаванасцю да адзінокага жыцця. Добра, калі ёсць побач людзі. Ну, хоць праз дарогу, праз дзесятак дамоў. А калі няма?

У палескіх вёсках мне сустракаліся старыя, якія жывуць па сутнасці "жыццём святых". Не, яны пры сваім розуме, але жыццёвыя патрэбы ад дадзеных ім бытавых умоў даходзяць да мінімуму жабракоў — бульбы, хлеба, чаю. Мыццё бялізны — ад сілы два разы ў год. Лазня — ад выпадку да выпадку. Старыя, безумоўна, прывыкаюць да такога жыцця — куды падзенешся, жывы ў зямлю не палезеш. Але і такое жыццё абцяжарваюць хваробы. І няма нідзе лекаў. А калі знойдуцца, дык ім не па кішэні. Вось тады і наступае сапраўднае, нават для іх, невыноснае гора. Мне расказвалі пра выпадкі, калі такое жыццё даводзіла людзей да самагубства. А хіба не ад адзінокай старасці і беднасці спяшаюцца састарэлыя "бамжы" на шматлюдныя вакзалы, у падземныя пераходы?

Службы сацыяльнай дапамогі, якія цяпер створаны пры аддзелах сацыяльнага забеспячэння, у меру сваіх сіл і магчымасцей выяўляюць асобных нямоглых старых, каб хоць чым-небудзь ім дапамагчы. Але матэрыяльныя іх магчымасці вельмі абмежаваныя. Няма ні штатаў, ні транспарту, ні сродкаў.

Людская душа жывая міласэрнасцю, але фінансавыя ручайкі, што бяруць пачатак ад шматлікіх фондаў, не дасягаюць бязлюдных вёсак, дзе жывуць адзінокія пенсіянеры.

Зноў няма ніякага выйсця? Яно, мне здаецца, усё ж ёсць. І, думаю, самае лепшае. Выхад у стварэнні шырокай сеткі вясковых пансіянатаў для старых і нямоглых вяскоўцаў. Чым добры такі "хатні" пансіянат? Тым, што не вырывае старых "з коранем" са сваёй зямлі, не разлучае са сваёй Радзімай, фармуе для старых звыклае асяроддзе: ёсць пра што пагаварыць, ёсць што прыгадаць, ёсць з кім падзяліцца крыўдамі. Некалькі калгасаў і саўгасаў могуць аб'яднаць свае матэрыяльныя намаганні і пабудаваць у кожным раёне дом для ветэранаў сельскай гаспадаркі.

А ці могуць? Уся бяда ў тым, што не, бо на такія дамы для састарэлых вяскоўцаў ніхто ніякіх фондаў не адпускае. Ды і банкі не дадуць крэдытаў. Толькі смелы, добры старшыня ці дырэктар пойдзе на такое "самаўпраўства", каб пачаць будаўніцтва пансіяната. І ні ў адным дзяржзаказе калгасна-саўгасная міласэрнасць не прадугледжана. Ды і кіраўніцтву сельгаспрадпрыемстваў у наш цяжкі час не да клопатаў пра старых вяскоўцаў, яны пакінуты на волю лёсу. І надоўга.

Не, не вёска вінавата ў страшнай да іх абыякавасці. Яна разам са старымі церпіць такую ж абыякавасць. І таксама старэе. І таксама памірае ў адзіноце.



КРЫК ДУШЫ



# "КАЛІ Б НЕ МАМА..."

Убачыўшы ў вашай газеце новую рубрыку "Крык душы", адразу вырашыла напісаць, каб распавесці пра самага блізкага для мяне чалавека — маці.

... Не магу паскардзіцца, што жыццё маё складвалася няўдала. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта БДУ я засталася працаваць на адной з кафедр універсітэта. Выйшла замуж, нарадзіўся Алёша. Усё было цудоўна: любімая работа, каханы чалавек побач, дзіця, але жыццё рыхтавала мне выпрабаванні.

Тры гады таму я трапіла ў аўтакатастрофу: пераходзіла вуліцу, па якой на вялікай хуткасці ехаў матацыкл (потым, ужо падчас следства, высветлілася, што матацыкліст знаходзіўся ў нецвярозым стане), і не паспела адскочыць... У прытомнасць прыйшла ўжо на бальнічным ложку, у рэанімацыі. Левая нага, зламаная ў трох месцах, ніяк не хацела зрастацца. Амаль паўгода я праляжала ў бальніцы, але канчатковы прысуд медыкаў быў несуцяшальны: кульгавасць застанецца на ўсё жыццё. Я павінна была прымірыцца з думкай, што ў свае 27 гадоў буду інвалідам...

Працу ва універсітэце, зразумела, давялося кінуць. Любая хатняя праца: прыборка, гатаванне ежы, прасаванне бялізны здаваліся страшэнным цяжарам з-за амаль пастаяннага болю ў назе. Да гэтага яшчэ дадаліся мігрэні, выкліканыя, як кажуць урачы, частковым пашкоджаннем функцый спіннога мозга.

Спачатку, бачачы мае бясконцыя хваробы, муж спрабаваў рабіць усё сам — мыць, варыць, даглядаць дзіця, бегаць па крамах, але неўзабаве я пачала заўважаць, што ён стаў нейкі нервовы, стомлены, заўсёды незадаволены. Я не мела права дакараць яго, бо сапраўды цяжка было весці хатнюю гаспадарку, адпрацаваўшы цэлы дзень (ён у мяне — інжынер-канструктар). Тым больш — для мужчыны. Якога ж мужа задаволіць жонка, якая ўвесь час хварэе і часта нават сабе не можа дапамагчы, не тое што сваім блізкім?

... Я бачыла, як шлюб наш робіцца ўсё больш нетрывалым, з-за пастаянных пабытавых непаразуменняў мы страчваем самае галоўнае — наша каханне. Я думала пра свае пакуты, ён — пра тое, як не пашанцавала яму ў жыцці з жонкай.

Сёння, напэўна, наш шлюб быў бы ўжо скасаваны, і сын мой гадаваўся без таты, калі б... не мая мама. Яна ўзяла ўсе хатнія клопаты і абавязкі на сябе, нягледзячы на сваё хворае сэрца і высокі крывяны ціск. Яна не дэманстравала свае "заслугі", наадварот, прыходзіла звычайна тады, калі мужа не было дома. Што б мы рабілі без нашай бабулі! Яна падтрымала мяне ў самы цяжкі момант майго жыцця.

... Цяпер мы жывём усе разам, а я, зрабіўшы ў Маскве некалькі складаных хірургічных аперацый, нарэшце, зноў магу працаваць. Адносіны ў зяця з цешчай, мне здаецца, лепшыя, чым у мяне з маці.

**Галіна ЯКІМЕНКА**

г.Мінск

# "ЖЫЦЬ, ЯК РАНЕЙ, БОЛЬШ НЕ МАГУ..."



Гісторыя гэтая пачыналася зусім звычайна. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў невялікім мястэчку на Гродзеншчыне я прыехала ў сталіцу, каб паступаць ва універсітэт. І нечакана для сябе — паступіла!

Мы вучыліся ў адной групе і жылі ў адным інтэрнаце. Тыя нядоўгія месяцы спатканняў, сустрэч, абяцанняў, шчырасці назаўсёды застануцца ў маёй памяці як успаміны аб нечым незваротна згубленым... Але здарылася так, што мы пасварыліся, і невялікі жыццёвы вопыт не даў нам абодвум магчымасці паразумецца. Мы рассталіся, і праз некаторы час мой сябар паехаў назад да бацькоў, кінуўшы вучобу.

... А яшчэ праз некалькі тыдняў я зразумела, што чакаю дзіця. Першым жаданнем было паведаміць "Яму", але нешта як бы "не пускала": не была ўпэўненая, што ён прыме гэтую "навіну" з радасцю. Думка пазбавіцца ад дзіцяці ў мяне не ўзнікала. Я б ніколі не змагла ўзяць на сябе грэх забойства. Але з другога боку, як стаць у дваццаць гадоў маці-адзіночкай? Як глядзець у вочы бацькам, сябрам, аднакурснікам? Сорам...

І тады, доўга не разважаючы, бо не было часу, я выйшла замуж за аднакурсніка, які даўно ўжо быў закаханы. Вяселле згулялі хутка і, калі я праз некаторы час аб'явіла мужу аб сваёй цяжарнасці, "бацька" быў вельмі ўзрадаваны.

... Зараз мне здаецца, што менавіта гэтае "хуткае" замужжа і было галоўнаю памылкай майго жыцця. Шлюб без кахання... Не, не падумайце, мой муж зусім не дрэнны хлопец, ён любіць мяне, дапамагае ва ўсім, шкадуе. Калі нарадзілася дачка, ён прывёз да нас сваіх бацькоў, наладзіў вялікае свята для сяброў... Дачушка называе мужа "татам", вельмі любіць яго, ды і ён таксама прывязаўся да малой.

... Можа, гэтая "ідылія" так бы і працягвалася, але... "Ён" вярнуўся ва універсітэт, адслужыўшы ў войску, і мы зноў вучымся на адным факультэце: ён — на трэцім курсе, я — на пятым. Больш таго, мы жывем у адным інтэрнаце.

Не ведаю, ці зразумеў ён што-небудзь, выпадкова сустрэўшы нас з Ірачкай каля інтэрната, але мне на імгненне зрабілася страшна, бо малая так падобная да яго... Тыя ж вялікія чорныя вочы, цёмныя, валасы. Ён усміхнуўся і, павітаўшыся, пайшоў. А я вось ужо месяц не знаходжу сабе месца, не магу спаць па начах. Мне невыносна бачыць яго кожны дзень, размаўляць пры сустрэчах аб чымсьці неістотным і дробязным, але прызнацца — рашучасці не хапае. І ці варта? Не ведаю, ці зменіцца нешта ў маім жыцці разам з гэтым прызнаннем, але ўпэўнена: жыць, як раней, больш не магу... І што рабіць цяпер, не ведаю.

**P.S.** Прабачце, што не падпісваюся сваім сапраўдным прозвішчам.

**М.Р.**

г.Мінск



# СТВАРЫЦЬ "ПАМЯЦЬ" ДЛЯ МАЛАДЫХ...

Столькі цікавых людзей навокал, а мы і не заўважаем, занятыя сваімі будзённымі справамі. З Васілём Мефодзевічам Лойкам пазнаёмілася выпадкова ў тралейбусе. Рухавы, вясёлы мужчына на маё запрашэнне прысесці наадрэз адмовіўся:

— Не-не, не сяду, нізавошта не сяду. Я ўжо сваё і адсядзеў, і адхадзіў. Колькі там часу засталося пастаяць і паглядзець на гэты свет! А вось вам, маладым, пакуль можна пасядзець і памарыць пра будучае. У вас яшчэ ўсё наперадзе.

Так завязалася наша размова. У руках ён трымаў пажоўклыя паперы, газеты. Пацікавілася, чым займаецца гэты чалавек.

Васілю Мефодзевічу ўжо семдзесят чатыры гады. Родам з Чашнікаў. Вучыўся ў Віцебскім настаўніцкім інстытуце на гістарычным факультэце. Вучобу перарвала вайна. Працаваў вясковым настаўнікам. З 1961 года чытаў лекцыі па гісторыі ў Віцебскім тэхналагічным інстытуце лёгкай прамысловасці. Тры гады як на пенсіі.

З гэтага часу і здзяйсняе ён сваю даўнюю мару — піша гісторыю Віцебска і Віцебскай вобласці. Першыя матэрыялы пачаў збіраць яшчэ ў студэнцкія гады. Часта ездзіў працаваць у Санкт-Пецярбургскую бібліятэку імя Салтыкова-Шчадрына, вышукваў цікавыя звесткі ў Мінску, Маскве, сустракаўся з жывымі сведкамі.

Зараз В.Лойка старэйшы навуковы супрацоўнік рэдакцыйнай калегіі Віцебскай гісторыка-дакументальнай кнігі "Памяць". У ліпені плануюць здаць рукапіс у выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя П.Броўкі". Такую кнігу аднаму напісаць цяжка, амаль немагчыма. Таму аб'ядналі свае сілы П.Бяляўскі, Г.Лабушаў, Н.Дарафеенка.

Выйдзе "Памяць" двухтомнікам. Будуць там найцікавейшыя звесткі з гісторыі Віцебска і вобласці. Вельмі хочацца Васілю Мефодзевічу, каб кнігу "Памяць" прачытаў кожны малады чалавек, каб расказаў пра яе сваім дзецям. Гэтыя веды дапамогуць глыбей пазнаць свой народ, яго культуру, зразумець літаратуру і мову, адчуць годнасць і пашану да зямлі, на якой жывем.

**Алена ДАРГЕЙКА**

г.Віцебск

# ЦЫМБАЛЬНАЕ СВЯТА




**3 — 5 чэрвеня ў Пастаўскім раёне прайшоў традыцыйны фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік". Мастацкія калектывы пабывалі ў калгасах і саўгасах Віцебшчыны, дзе паказалі свае канцэртныя праграмы. Адбыліся конкурс выканаўцаў на народных інструментах сярод навучэнцаў ДМШ Віцебскай вобласці, выстаўка твораў традыцыйных рамёстваў, конкурс на лепшага гарманіста і частушачніка "Хто каго?", традыцыйнае прадстаўленне "Пастаўскія перазвоны", а ў мясцовым краязнаўчым музеі адкрылася новая экспазіцыя, прысвечаная культурным традыцыям Паазер'я.**

Фестываль сёння прайшоў у Паставах ужо трэці раз. Тадэвуш Стружэцкі, начальнік аддзела ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры і друку, які ўзначальваў аргкамітэт фэсту, распавёў нам, што гэты прыгожы горад быў абраны невыпадкова. Пастаўшчына — ледзь не адзіны рэгіён у краіне, у якім захавалася мясцовая традыцыйная школа выканальніцтва на дыятанічных цымбалах і дзе яшчэ працуюць народныя ўмельцы, што вырабляюць гэты музычны інструмент. Вялікая заслуга ў гэтым Груздаўскага цымбальнага аркестра, дзейнасць якога доўгія гады спрыяла захаванню і развіццю мясцовых музычных традыцый. Тут вельмі прыгожыя мясціны, а галоўнае — людзі з вялікай пашанай ставяцца да народнага мастацтва.

Што праўда — то праўда, пастаўчане музыку любяць. У гэтым мог пераканацца кожны, хто патрапіў на канцэрт лаўрэатаў фестывалю, які адбыўся ў гарадскім парку 5 чэрвеня. Уражваў ужо шматтысячны натоўп, што рушыў ад цэнтра горада ў парк: эстэтычныя схільнасці аб'ядналі ў адзіным руху больш людзей, чым здолела б зрабіць якая-кольвек палітычная ідэя. І асабліва прыемна, што некаторыя дзеці і дарослыя былі апранутыя ў нацыянальныя строі (мужчыны — у вышываныя кашулі пад пінжакамі). У парку, вакол натуральнага амфітэатра з лаўкамі і сцэнай, задоўга да пачатку канцэрта ўжо працавалі буфеты, перасоўныя крамы і латарэі. Стварыць святочны настрой дапамагалі шматлікія транспаранты з жартаўлівымі прыслоўямі, прымацаваныя паміж нізкамі бел-чырвона-белых сцяжкоў да высачэзных соснаў: "Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе вясялей", "Калі шанцуе, то й стары танцуе", "Галоднаму — ежы, халоднаму — цяпла, а сытаму — музыкі" і г.д.

Больш за чатыры гадзіны доўжыўся канцэрт, і, здаецца, ніводны нумар не расчараваў гледачоў. Амаль кожны калектыў сярод іншых інструментаў скарыстоўваў цымбалы — і не дарма: яны "знітоўваюць" і гарманізуюць гучанне іншых інструментаў, агортваюць музычны твор нібыта промнямі ласкавага ляснога сонейка. Каб заўважыць гэта, трэба было пачуць выступ Падляскага ансамбля народнай песні з Любліна або ансамбля "Вяснянка" з Ржэва: і палякі, і расейцы добра гралі і спявалі, але без цымбалаў музыка здавалася ўжо нейкай сухой і вуглаватай. Не скажам гэтага пра выступ украінскага ансамбля "Тэс" з Івана-Франкоўскай вобласці (праўда, іхнія, больш масіўныя "венгерскія" цымбалы надавалі музыцы інакшы, гарачы паўднёвы каларыт).

Сярод некалькіх дзесяткаў беларускіх гуртоў адзначым узорны цымбальны аркестр СШ N13 г.Мінска, які атрымаў спецыяльны прыз ад Беларускага інстытута праблем культуры, і самабытны спеўны гурт "Тутэйшая шляхта" БДУ, спецыяльны прыз якому прызначыў Беларускі універсітэт культуры. А лаўрэатамі конкурсу сталіся ансамбль народных інструментаў Ляхавіцкага гарадскога ДК і ансамбль "Калі ласка" Лідскага ДК (абодва занялі III месца). Лаўрэатамі II прэміі былі абвешчаны ансамбль народнай песні, музыкі і танца "Магілёўцы", а таксама ансамбль "Паазер'е" з Пастаўскага раёна. Нарэшце, I месца ў конкурсе заняў гурт народнай музыкі "Палешукі" з Іванаўскага раёна. Менавіта гэты калектыў атрымаў галоўны прыз — цымбалы, зробленыя пастаўскім майстрам Іванам Андронам, а таксама 1 млн. рублёў ад Міністэрства культуры і друку.

Конкурснае журы, якое ўзначальваў рэктар Беларускай акадэміі музыкі Міхаіл Казінец, абвясціла таксама пераможцаў конкурсу частушачнікаў і гарманістаў "Хто каго?", які адбыўся напярэдадні. Лаўрэатамі III прэміі тут сталіся Іван Калевіч з Пухавіцкага раёна і Уладзімір Рубанік з Магілёва, на II месца быў вылучаны Мечыслаў Рабіза з Пастаўскага раёна, а I прэмію (200 тыс. рублёў) атрымаў Міхась Рубанік са Слаўгарада. Лепшай частушачніцай фестывалю была названа Тамара Дземчанка з Крычава.

Побач з канцэртнай пляцоўкай падчас фестывалю працаваў "старажытны кірмаш" — Горад рамёстваў, дзе можна было набыць вырабы лепшых народных майстроў Віцебшчыны і непасрэдна ўбачыць, як яны ствараюцца. Свае творы тут выставілі студыя "Ля возера" з Браслаўшчыны, клуб народных майстроў "Крыніца" з Глыбоцкага раёна, Лепельскі дом рамёстваў, народныя майстры Докшыцкага раёна. У экспазіцыі народнага клуба майстроў "Святліца" з г.Мёры жанчына расшывала арнаментам ручнік, а мужчыны рэзалі посуд і цацкі з дрэва, плялі кошыкі і ўпрыгожванні для інтэр'ера. У аддзеле народных умельцаў Шаркоўшчынскага раёна хлопец ляпіў посуд на ганчарным коле; побач прадаваліся самаробныя дываны з выявамі тыграў і жар-птушак.

Найвялікшую экспазіцыю зрабілі гаспадары свята — Пастаўскі клуб народных майстроў. Жанчыны тут рабілі перад гледачамі дыванок, сярод іншых вырабаў прадаваліся вельмі прыстойна зробленыя музычныя інструменты. Тут жа ладзіліся гульні і конкурсы для дзяцей і дарослых. Дзяўчынкі распісвалі крэйдай гарлачыкі, спаборнічалі ў веданні хатняй гаспадаркі. А дарослыя пад кіраўніцтвам "пана Быкоўскага" з "Паўлінкі" адказвалі на мудрагелістыя пытанні, спявалі частушкі, спаборнічалі ў скоках. Уцягнулі і мяне ў кола ды яшчэ прымусілі начапіць калошу сорак апошняга нумару — давялося скакаць з пастаўскай паненкай польку, лявоніху і нават лязгінку, ажно пакуль ногі не запятлялі, але ж атрымаў прыз: свістульку з гліны — "каб на жонку свістаць, калі спатрэбіцца".

У развітальным слове да гасцей і ўдзельнікаў фестывалю Міхаіл Казінец адзначыў, што беларуская зямля багатая не толькі на таленты, але і на народных дэпутатаў. Ёсць, аднак, сярод іх чалавек, які рэальна робіць усё, каб жылі беларускія песня і музыка: Васіль Чэпік. Безумоўна, з дапамогай усіх пастаўчан. Захаваць для будучыні аўтэнтычны фальклор —вялікая задача, што стаіць перад нашай культурай. Хай жа хопіць усім нам любові да бацькоўскай спадчыны і грамадзянскай мужнасці, каб і нашыя дзеці яшчэ чувалі спрадвечны беларускі напеў у сваёй крыві.

**Наталля АЛЕСІЕВІЧ, Алесь ЦАГЛІНА**

Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ

# УНІВЕРСІТЭТ-АРКЕСТР

**У Тэатральнай зале Цэнтральнага Дома афіцэраў адбыўся заключны канцэрт фестывалю мастацтваў Беларускага універсітэта культуры, прысвечанага 50-м угодкам вызвалення Беларусі. Мінуў першы навучальны год з таго часу, як Інстытут культуры ператварыўся ва універсітэт, і гэта, напэўна, дадаткова ўзмацніла святочны настрой артыстаў і гледачоў (пераважна студэнтаў і выкладчыкаў універсітэта).**

Уверцюрай канцэрта, сімвалізуючай пераемнасць пакаленняў, стаўся "Майскі вальс" у выкананні духавога аркестра Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь і ансамбля бальнага танца кафедры харэаграфіі: хлопцы ў фраках і дзяўчаты ў шыкоўных сукенках бестурботна кружыліся парамі на фоне салдат, што спявалі пра вайну і перамогу. Затым пачалося першае аддзяленне, аддадзенае пераважна выканаўцам фальклорнай музыкі. Іх я падзяліў бы на дзве плыні: "аўтэнтычную" і "пастаральную". Сярод першых варта згадаць вакальны квартэт "Надзея", ансамбль цымбалістак пад кіраўніцтвам Г.Клімовіча, ансамбль народнай музыкі пад кіраўніцтвам В.Купрыяненкі, фальклорны ансамбль "Валачобнікі", трыо баяністаў пад кіраўніцтвам В.Глубачэнкі. Вянок беларускіх песень (без словаў, але ўсё роўна натуральна) выканаў аркестр народнай музыкі "Спадчына". А найбольш блізкім да аўтэнтычнага мастацтва мне падаўся выступ фальклорна-этнаграфічнага ансамбля "Грамніцы": беларускія народныя песні ў ягоным выкананні набылі нейкі рытуальна-літургічны дух, нібыта спявалі не для поўнай залы гледачоў, а для самога Неба.



Выступы іншых гуртоў былі не менш артыстычныя, я б нават сказаў — занадта артыстычныя для сапраўднага народнага мастацтва. Невыпадкова некаторыя з іх скарыстоўвалі фанаграму — напрыклад, студэнты 5 курса кафедры харэаграфіі ў замалёўцы "Вясковыя жарты" (хлопцы ў вопратцы братніх славянскіх народаў радасна скачуць вакол бочкі з півам) або студэнты 2 курса той жа кафедры ў замалёўцы "Конікі" (хлопцы і дзеўкі скачуць як коні — і паасобку, і зацугляныя ручнікамі ў пары і тройкі). Вельмі прыгожа (мне пачулася нават настальгічна-агінская нотка) спяваў пра Радзіму хор народнай песні пад кіраўніцтвам С.Дробыша. У духу пастаралі XVIII стагоддзя скакалі і спявалі на лужку шчаслівыя ў сваёй прастаце хлопцы і дзяўчаты з ансамбля танца "Крыніца". І нешта звышпастаральнае ў кампазіцыі "Жураўлі на Палессе ляцяць" паказаў ансамбль народнай музыкі і танца "Квецень": хлопцы і дзяўчаты ў беласнежнай вопратцы ўжо зусім адарваліся ад празаічнай зямлі і прывітальна машуць нам крыламі з вышыні...

Гэтыя і некаторыя іншыя нумары пакінулі адчуванне нейкага квазі-народнага мастацтва: і не гарадскога, і не вясковага. Хутчэй за ўсё гэта даволі тыповы для сучаснай беларускай культуры выраз настальгічнай мары былога вяскоўца, які цяпер жыве ў горадзе, але не любіць ягоныя рытмы.

Выступы трох калектываў былі прысвечаны рэлігійнай тэматыцы. Артысты тэатра танца паказалі харэаграфічную мініяцюру ў авангардным стылі "Званы Вялікадня". Камерны хор спяваў "Магутны Божа" М.Равенскага і "Всі языцы" І.Бартнянскага. Больш цікава, аднак, гучалі старадаўнія канты ў выкананні мужчынскага хору (мастацкі кіраўнік абодвух калектываў — А.Пекуцька).

Пасля антракта на сцэне запанавала больш сучасная музыка. Але пачалося другое аддзяленне канцэрта са старажытнага студэнцкага гімна "Gaudeamus igitur" у выкананні харавога калектыву "Мара". Гэты гурт спяваў не толькі на латыні, але таксама на рускай, беларускай і ангельскай мовах. Арыгінальную харэаграфічную мініяцюру паказала студэнтка 5 курса кафедры харэаграфіі Наталля Карчэўская — напаўголая, у залацістай накідцы, якая дапамагала схаваць не заўсёды дакладныя рухі. Студэнты гэтага ж курса выканалі эратычную кампазіцыю "Зграя", падобную адначасова на рытуальныя танцы першабытнага племя, балет "Спартак" і дыскатэку. Вылучаліся жарсцю і бальныя танцы студэнтаў кафедры харэаграфіі (ча-ча-ча і рок-н-рол).

Арыгінальныя спевы без словаў ("Прэлюдыю" А.Фляркоўскага) выканаў вакальны ансамбль "Ad libitum". Не менш арыгінальны быў і аркестр народных інструментаў пад кіраўніцтвам А.Аўсіевіча, выконваючы "Скокі скамарохаў" П.Чайкоўскага без аніводнага скамароха. Студэнтка 5 курса кафедры харавога мастацтва Ала Пракапеня спявала аперэтачнае "Балеро" (на жаль, не заўсёды збалансавана на высокіх нотах). Сапраўдным адкрыццём для мяне стаўся лаўрэат міжнароднага фестывалю ў Бельфоры (Францыя) стрынг-бэнд пад кіраўніцтвам А.Капілава: тузін скрыпак, тры віяланчэлі і трохі іншых інструментаў вельмі прыгожа выканалі польку І.Штрауса. Гэтыя ж музыкі акампаніравалі спевакам Дато Майсурадзе (дарэчы, лаўрэату фестывалю "Славянскі базар") і Інзе Тухто, але эстрадныя песні мне падаліся надта каструбаватымі для такога калектыву. Таксама дзве песні выканалі дуэтам студэнты кафедры рэжысуры святаў, пераможцы рэспубліканскага фестывалю "Залатая ліра" Алеся Ярмоленка і Дзмітрый Смольскі. Добрыя галасы, артыстычнасць, прывабныя манеры гэтых спевакоў дазваляюць назваць іх надзеяй беларускай эстрады.

Цікава выступіў джазавы брас-септэт з музыкай свайго кіраўніка І.Мангушава "Вясёлая вандроўка". На тэму "Парыжскія бульвары" фантазіраваў дыпламант міжнароднага фестывалю акардэаністаў у Вільні ансамбль "Туцці" пад кіраўніцтвам Л.Сухаваравай. А найлепшым нумарам канцэрта, паводле рэакцыі публікі, стаўся выступ духавога аркестра "Светач" разам з аркестрам Міністэрства абароны, якія выканалі рок-н-рол Д.Гарленда з кінафільма "Серэнада Сонечнай даліны". Незабыўнае відовішча ўяўлялі сабой пяць саксафаністаў у вайсковай форме на пярэднім плане і твістуючы дырыжор — лаўрэат Усеармейскага конкурсу вайсковых дырыжораў А.Фёдараў: людзі ў мундзірах не забыліся, што такое свабода!

Гэтыя ж два калектывы, а таксама хор "Мара" выканалі выніковы нумар канцэрта — песню Г.Казловай "Беларусь, мой край". Выніковы, бо мастацтва навучэнцаў і выкладчыкаў Беларускага універсітэта культуры здаўна мае адметнымі рысамі не толькі высокапрафесійны ўзровень, але і патрыятызм. Проста дзіўна, колькі добрых артыстаў узгадавана пад адным дахам за апошнія гады. Я не сказаў яшчэ, што ў фае пад музыку джаз-бэнда адбывалася паралельная канцэрту выстава малюнкаў, габеленаў, вырабаў з саломкі, роспісаў па дрэве і г.д., створаных рукамі студэнтаў гэтай навучальнай установы. Пажадайма ж яе выпускнікам ніколі не страціць любові ні да мастацтва, ні да роднай зямлі.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

Фота Віктара КУДРАЎЦАВА




У дні свята горада Яраслаўля, горада са значнымі гістарычнымі традыцыямі, жыхары знайшлі месца і час на адкрыццё помніка выдатнаму беларускаму паэту Максіму Багдановічу, які на пачатку стагоддзя вучыўся ў яраслаўскай мужчынскай гімназіі. Помнік усталяваны ў цэнтры горада, якраз насупраць будынка гімназіі, у невялікім утульным парку. Сама ідэя ўшанавання памяці беларускага паэта ўзнікла ў 1991 годзе. Тры гады пайшло на збор сродкаў і выкананне самога помніка. Вядомы скульптар Сяржук Вакар падараваў працоўную мадэль помніка, архітэктары Андрэй Карпук і Уладзімір Ждан (дарэчы, наш суайчыннік з Яраслаўля) выканалі праект усталявання помніка. Старшыня клуба "Спадчына" Анатоль Белы, арганізатар работ і збору сродкаў, падараваў музею М.Багдановіча, што ў Яраслаўлі, мастацкую шыльду з прозвішчамі фундатараў гэтай гістарычнай падзеі. Трэба сказаць, што добрыя і перспектыўныя адносіны склаліся паміж мэрам горада В.Валачунасам і беларускай дэлегацыяй, якую ўзначальваў намеснік міністра культуры і друку І.Карэнда. На адкрыцці помніка было паабяцана, што музей нашага вядомага земляка ў хуткім часе пяройдзе на баланс аддзела культуры горада Яраслаўля. Спадзяемся, што прозвішча Максіма Багдановіча знойдзе прыпіску ў культурным жыцці горада. Такі падыход да справы суседняй дзяржавы, калі існуюць эканамічныя і тэрытарыяльныя межы, — рэдкасць, але ў дадзеным выпадку гэта ўжо стала традыцыяй. Магчыма, і васількі, якія вось-вось зацвітуць на далёкай зямлі і будуць адцяняць чырвоны падмурак п'едэстала, стануць сімвалам не толькі беларускай культуры.

# КУПАЛЬСКАЯ НОЧ

ПАДЧАС летняга сонцастаяння, што прыпадае на 23 чэрвеня, у пярэдадзень св.Яна Хрысціцеля на вялікім абшары Польшчы і яе ўсходніх суседзяў адбываюцца купальскія гульбішчы. У польскай хрысціянскай тэрміналогіі гэты абрад мае назву "собутка", але з дахрысціянскіх часоў захавалася да сёння іншая назва: свята Купалы. Купала — гэта імя міфалагічнага персанажа, а таксама абрадаў, якія прысвячалі яму ўсходнія і некаторыя іншыя славянскія плямёны (напрыклад, чэхі).

На Русі летапісныя сведчанні аб святкаванні Купалля з'явіліся ўжо ў XIII стагоддзі — спачатку пад назвай Купалія, а потым — Купала, Купало, Іван-Купала (24 чэрвеня). Назва гэтая азначала і самое свята, і вялікую ляльку, ужываную для абрадавых дзеянняў. Купалай называлі яшчэ дзяўчыну, што раздавала кветкі пры варажбе падчас гульбішча, а таксама ўсіх ягоных удзельнікаў разам. На падставе старажытнарускіх і балгарскіх крыніцаў навукоўцы мяркуюць, што назва абраду паходзіць ад першага ў годзе купання ў рацэ альбо, паводле не дужа абгрунтаванай гіпотэзы, ад спосабу хрышчэння праз акунанне ў пэўнага кшталту купель, які практыкаваў св.Ян Хрысціцель з новымі вернікамі.

Створаны ў XVII стагоддзі "Густынскі летапіс" паміж іншымі сведчаннямі кажа: "Абрад Купалы адпраўляецца ў вечар нараджэння Яна Хрысціцеля наступным чынам: з падвячорку збіраецца просты люд абодвух полаў, сплятае сабе вянкі з ядомага зелля альбо карэння і, падпярэзаўшыся чарнабыльнікам, распальвае вогнішча. У некаторых мясцовасцях ставяць яшчэ галіну дрэва і, узяўшыся за рукі, кружацца вакол таго агню, спяваючы свае песні (...). Потым скачуць праз агонь, прыносячы сябе ў ахвяру бесу". Тыпалагічную сапраўднасць гэтага апісання пацвярджаюць этнаграфічныя і літаратурныя нарысы аб Польшчы сярэднявечнай, рэнесансавай і значна пазнейшых часоў. У пачатку XV стагоддзя засмучоны прапаведнік занатаваў: "старыя і дзеўкі аддаюцца не малітве, каб стацца годнымі далучэння Духу Святога, а скокам, і шануюць тым не Бога, а д'ябла..." Праз паўтара стагоддзя Марцін з Ужэндава запісаў у сваім зельніку: "У нас у дзень св.Яна (...) вогнішчы палілі, таньчылі, спявалі і тым д'яблу гонар чынілі. Да нашага часу жанчыны ўпарта трымаюцца гэтага паганскага звычаю". Ян Каханоўскі прысвяціў гэтай традыцыі паэтычную "Святаянскую песню пра Купалле" (пасля 1575 г.) паводле назіранняў гэтага звычаю ва ўласных чарналескіх маёнтках.

Негатыўнае стаўленне кліру паўплывала на значнае абмежаванне геаграфічнага абшару святкавання Купалля. Амаль зусім яно знікла на захадзе Польшчы — перадусім, дзякуючы намаганням пратэстанцкіх пастараў, якія сувора ганілі гэтае паганскае свята. Захавалася там, дзе ўвайшло ў хрысціянскі каляндар, злучыўшыся з культам св.Яна: той, як хрысціцель Езуса ў рацэ Іардан, добра падыходзіў на ролю патрона звычаяў, што маюць дачыненне да вады. У купальскіх абрадах адбылося аб'яднанне двух розных культаў: культу вады і культу агню.

Культ вады захаваўся ў выглядзе вянкоў, што пускалі дзяўчаты па плыні ракі, варажбуючы аб шлюбе. Першапачаткова сэнс у гэтага звычаю быў іншы: людзі прасілі добразычлівасці ў воднай стыхіі, аб чым пісаў і Каханоўскі ва ўжо згаданым творы. Таксама мы знаходзім там згадкі пра асвячэнне самой ночы, якая мусіла бараніць ад віхураў і паводкі, ад граду і засухі. Меліся на ўвазе сезонныя бедствы, адлюстраваннем якіх можа быць выраз "святаянка", якім называюць дождж у пару сенакосаў і разліццё рэк.

Аднак асноўным складнікам абраду, вядомага, напэўна, ва ўсёй Еўропе, з'яўляюцца вогнішчы. Стос дроваў для іх складалі на неапрацоўваемай зямлі ў сваёй гаспадарцы або на паляне, а найлепш — на пагорку. Выбар месца для вогнішча на нічыйнай зямлі, што сімвалізавала "той" свет, мусіў азначаць прыналежнасць удзельнікаў свята да іншай, не тутэйшай краіны. Дровы падпальваліся рытуальным старажытным спосабам, захаваным аж да XIX стагоддзя, — ад агню, атрыманага шараваннем дошчачак. Вакол вогнішча таньчылі кабеты, спяваючы песні з просьбамі да сонца і варажбой аб каханні і шлюбе маладых пар. Музычная структура песень была архаічнай і адлюстроўвала настрой смутку і сур'ёзнага стаўлення да абраду, нават калі іхнія словы стваралі атмасферу гульні і весялосці. Напэўна, так адбівалася ўсведамленне абмежаванай здольнасці прыроды ствараць новае жыццё. Бо ад гэтага часу будзе меншыцца дзень, а з ім і жыццядайнае святло сонца.

Удзельнікі танцаў падпярэзваліся палынным чарнабыльнікам (Artemisia absinthium), які лічыўся лекавым і магічным зеллем, што бараніў ад чараўніцтва. Апрача танцаў па акружнасці, скакалі таксама праз агонь — паасобку ці парамі. Маладыя, калі яны здолелі са сплеценымі далонямі пераскочыць полымя, бачылі ў гэтым знак, што неўзабаве могуць пабрацца шлюбам. У спевах гучалі рэфрэнам імёны дзяўчат і хлопцаў, закаханых адзін у аднаго, але таксама асобаў, для якіх шлюб быў немагчымым з-за іхняга ўзросту ці іншых перашкод. І легкадумныя паводзіны ўдзельнікаў, і камічныя сітуацыі былі рэшткамі старадаўняга святкавання купальскай ночы, калі яна яшчэ была аргіястычным святам кахання. Аб гэтым кажуць ангельскія прыслоўі як аб "купальскім шаленстве" (midsummer folly), якое ў скрайніх выпадках сягала аж да кровазмяшэння, калі даваць веры беларускай купальскай песні пра каханне брата і сястры, ператвораных у кветкі і зёлкі.

Ва ўкраінскім, беларускім і расейскім фальклоры меўся звычай спальвання вялізнай саламянай лялькі, якую на Беларусі клікалі Марай. Палілі таксама аздобленую кветкамі імітацыю галавы каня ці каровы альбо — як сімвал сонца — аблітае смалой і замацаванае на высокай жардзіне кола ці капу сена. Разам з тым, дуалізм бачання свету беларусамі адбіваўся ў звычаі тапіць у вадзе выявы Мары і конскую ці каровіну галаву. Абрады балтыйскіх народаў дапаўняюць старадаўнюю частку міфа. Латышскі Ёніс (Ясь) сядзіць на гары ці на камені. Ягоныя жонка Мора і дзеці мокнуць на дажджы, потым Мора знікае, і ён сам займаецца гаспадаркай, асабліва доглядам хатняй жывёлы, б'ецца з ваўкамі і нячыстымі сіламі.

Паводле шырока распаўсюджаных павер'яў, у купальскую ноч расквітае папараць; той, хто знойдзе яе кветку, станецца ўдачлівым і моцным, набудзе здольнасць бачыць схаваныя скарбы, хаця дабрацца да іх будзе нялёгка. Па казачную папараць-кветку выпраўляцца ў лес трэба было ў самоце, патаемна ад іншых. Адшукаць цудадзейную кветку мог толькі чалавек адважны і ў найвышэйшай ступені шляхетны. Нямногія адпавядалі гэтым умовам, і таму штосьці не чуваць удачлівых шукальнікаў. Зрэшты, шанцаванне было б тут даволі сумніўным, бо ў выніку карыстання сілай кветкі адбываецца самазнішчэнне станоўчых рысаў уласнай асобы. Каб набыць звышчалавечыя здольнасці, наперад трэба стацца нялюдскім. Аднак гэты закон дзейнічаў не заўсёды, як сведчыць занатаваны год пятнаццаць таму аповяд.

"Напрыканцы сямідзесятых, — узгадвае ў кнізе "Паўтараць час пачатку" этнограф Анна Задражыньска, — адзін з маіх суразмоўцаў у падляшскай вёсцы распавёў наступнае паданне. Нібыта ў суседняй вёсцы яшчэ жыве кабета, якая аднойчы ў купальскую ноч сарвала маленькую блакітную кветачку, што расцвіла на лясной папараці. Захоўвае яе ў сваёй хаце патаемна. Ад той ночы гэтая звычайная жанчына сталася празорцай, набыла здольнасць лячыць людзей і жывёлаў і бачыць будучыню як на далоні. Ведае таксама аб людзях усё, умее сурочыць і адчыняць чары. Сталася чараўніцай".

Хаця пасля купальскай ночы свет, у якім жыве чалавек, ужо павінен функцыянаваць нармалёва, здаралася, як апавядаў той жа Анне Задражыньскай адзін з жыхароў вёскі пад Коднем, што і ў дзень св.Яна дзеяліся рэчы незвычайныя. "Сярод збожжа бегалі русалкі ў павеўных сукнях з распушчанымі доўгімі валасамі. А рука боская мусіла бараніць дзяцей, бо русалкі выкрадалі іх або падмянялі. На небе тады сонейка іграла, мігцела, паводзіла сябе дзіўна. Людзі не асмельваліся выходзіць на працу ў поле. У многіх мясцовасцях Польшчы людзі цяпер яшчэ кажуць, што ў гэты дзень не трэба зранку пачынаць працу (метанімія смерці. —Ю.С.). Напрыклад, на Паморʼі пастухі стараліся як найпазней выганяць жывёлу на пасвішчы. Лічылася, калі выйсці туды на світанні, гэта прынясе шкоду. У дзень св.Яна трэба было лепей ахоўваць маёмасць. У Мазовіі гаспадыні ішлі ў хлявы з запаленымі грамніцамі і кожнай карове ўскладалі на рогі вянкі з зёлак. На ўсялякі выпадак жагналі іх яшчэ знакам крыжа. Верагодна, то былі скрайнія захады перасцярогі".

Кастры, якія цяпер называюць купальскімі, палілі таксама на Тройцу. Абрад адбываўся паводле сцэнара, падобнага да купальскага, з той толькі розніцай, што не шукалі папараць-кветку. Этнографы трактуюць гэтыя два святы: пярэдадзень і дзень св.Яна, з аднаго боку, а з другога — свята Спаслання Духа Святога, як адзіны абрадавы перыяд.

Купальскія звычаі, асабліва паленне кастроў, практыкаваліся і ў гарадах. У сярэднявечным Кракаве пускалі вянкі ў Вісле, Рудаве і Прондніку. Раззлаваны прапаведнік гаварыў казань аб "дурных жанчынах", што скакалі і спявалі паганскія песні пад гукі лютні. З цягам часу зніклі абрадавыя спевы і было абмежаванае паленне кастроў, вельмі небяспечных для гарадской забудовы і для саміх удзельнікаў гульбішча. "Гэты звычай, — піша гісторык побыту XVIII стагоддзя кс.Енджэй Кітовіч, — у сярэдзіне праўлення Аўгуста III ужо канаў, а напрыканцы яго (другая палова стагоддзя) заняпаў канчаткова, дзякуючы суворым захадам вялікага каронНага маршалка, выкаранены наперад у Варшаве за благія наступствы. Былі то і пажары ад купальскіх вогнішчаў, і калецтвы людзей, што скакалі праз полымя, бо яны, асабліва пры густым дыме, часам падалі ў агонь і нявечылі вочы, твары, рукі і босыя альбо ў кабет не закрытыя ад споду ногі. Здараліся і хуліганскія, кажучы цяперашняй мовай, выбрыкі, калі "хлопцы непрыкметна кідалі ў агонь парахавыя набоі. Тыя з нечаканым грукатам ўздымалі полымя дагары і найчасцей спрычыняліся да таго, што перапалоханая скакуха падала ў агонь, а за ёй — з разбегу — другая і трэцяя..."

Пасля шаленстваў купальскай ночы ў людскім свеце ўзнаўляўся завядзёны лад. Абмяркоўваліся шлюбныя саюзы, высылаліся сваты, сваякі будучых наважэнцаў абгаворвалі падзел маёмасці. Паволі надыходзіў час жніва і збору ўраджаю.

**Юзэф СМАСАРСКІ,**
**сакратар рэдакцыі каталіцкага штомесячніка "Więź" ("Лучнасць")**

**Пераклад з польскай мовы**



КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ШАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.

Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 8000
Замова 50
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

